3 чэрвеня 2016 | № 22 (487)

Новы час

novychas.by

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА •ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Канец эпохі маналітнай свядомасці стар. 4

5 САДОВЫЯ ТАВАРЫСТВЫ ПАТРАБУЮЦЬ ГРОШЫ

Нягледзячы на тое, што садовыя ўчасткі апісаныя, Ніна Багінская працягвае туды ездзіць і кажа, што не збіраецца іх аддаваць — маўляў, буду бараніць як магу

6–7 ХТО ПЕРАМОЖА: УРАД, ПРАФСАЮЗЫ ЦІ ФРАНЦЫЯ?

Ужо не першы месяц французы пад уплывам прафсаюзаў пратэстуюць супраць паправак у працоўны кодэкс. Закон Эль-Камры можа стаць прычынай маштабнай агульнанацыяльнай забастоўкі. Што так раз'юшыла французаў?

9 АПОШНІЯ ДНІ НАЗАРБАЕВА?

Хваля масавых несанкцыянаваных мітынгаў у Казахстане спарадзіла ў асяродку экспертаў моду на некралогі рэжыму Назарбаева. Што будзе, калі сапраўды над казахскім стэпам пачне гуляць вецер пераменаў?

10–11 ГЕНЕРАЛ БРОНІ ЛЮЦЫЯН ЖАЛІГОЎСКІ

Прынята лічыць, што гэты таленавіты вайскавод быў дзеячам Польшчы, а для Беларусі ён чужынец, ці таго горш — здраднік. Кім жа ён быў — генерал Броні Люцыян Жалігоўскі?



# Без «ветлівых людзей»

## Пэўныя колы ў Расіі ўжо рыхтуюць сцэнар «малой пераможнай вайны» ў Беларусі



Сяргей ПУЛЬША

Днямі ў Беларусь «на дзень па справах» (то бок «з працоўным візітам») заязджаў Аляксей Мільчакоў. Актыўныя карыстальнікі інтэрнэту ведаюць яго па гісторыі з маладзевымі ваеннымі зборамі ў Падмаскоўі. Вучэнні праходзілі з 6 па 9 мая, і на іх прысутнічалі і беларускія школьнікі. Трэнерамі ў дзяцей былі расійскія неанацысты, якія ваявалі на Данбасе.

Паводле непацверджанай інфармацыі, радыкальна настроеныя прыхільнікі «русского мира» збіраюцца правесці ў Мінску нейкі з'езд. Сам Мільчакоў сказаў «Радыё Свабода», што ў падрыхтоўцы гэтага мерапрыемства ён не ўдзельнічае, але гатовы на ім папрысутнічаць.

Амаль адначасова ў Маскве «міністр абароны ДНР» Ігар Гіркін-Стралкоў стварыў «Агульнарасійскі нацыянальны рух». Як вынікае з палітычнай дэкларацыі новага грамадскага аб'яднання, яго мэтай будзе «адраджэнне Расіі ў якасці рускай нацыянальнай дзяржавы, якое служыць інтарэсам расійскай нацыі».

Адраджэнне Расіі Гіркін з прыхільнікамі разумеюць своеасабліва. «Мы не прызнаем ні савецкага тэрытарыяльнага дзялення, ні Белавежскай дамовы. Землі, на якіх жывуць рускія людзі, палітыя крывёю рускіх людзей, маюць права вярнуцца ў склад Расіі. Мы выступаем за аб'яднанне Расіі, Украіны, Беларусі, а таксама іншых рускіх зямель у адзінай агульнарускай дзяржаве і ператварэнне ўсёй тэрыторыі былога СССР у безумоўную расійскую зону ўплыву. Мы падтрымліваем любыя намаганні рускіх людзей па аб'яднанні, адкуль бы яны ні зыходзілі», — адзначаецца ў дэкларацыі.

У тэксце гаворыцца, што ўдзельнікі агульнарускага нацыянальнага руху змагаюцца за правы, свабоды і інтарэсы рускіх, якія жывуць у іншых дзяржавах і «пакутуюць ад дыскрымінацыі».

Экс-пасол Украіны ў Беларусі Раман Бяссмертны ўвогуле заявіў у эфіры ўкраінскага тэлеканала «1+1», што ў Беларусі і Казахстане Крэмль пачаў рэалізацыю сцэнару «народных рэспублік». Датычна Беларусі, па яго словах, «сітуацыя абвастрылася ў дзвюх усходніх абласцях, і яна блізкая да зрыву».

На падобныя выказванні павінны былі б рэагаваць беларускія ўлады. У прыватнасці КДБ і МУС. Але пакуль што ніякіх дзеянняў з боку гэтых органаў не наглядаецца.

Зразумела, і мы неадназова пра гэта пісалі, што сённяшняй Расіі значна больш патрэбная «саюзная» Беларусь, а не «шэсць абласцей у складзе Расіі». Па шматлікіх прычынах: фінансавых (калі Расія не здольная «выцягнуць» Крым, то нашто ёй яшчэ шэсць датацыйных рэгіёнаў?), міжнародных (адзіны сталы саюзнік на міжнароднай арэне, тым больш звязаны пагадненнем паміж МЗС аб каардынацыі знешняй палітыкі), ваенных... Таму большасць экспертаў пакуль лічаць неверагодным з'яўленне ў нашай краіне «зялёных чалавечкаў», «ветлівых людзей» і «народных рэспублік».

Але не можа не насцярожваць тое, што і стварэнне Гіркіным АНР, і «вайскова-патрыятычныя вышкалы» беларускіх школьнікаў зыходзяць нібыта «знізу». Гэта нават не пачатак інфармацыйнай вайны. Інфармацыйную вайну Беларусь, аддаўшы сваю эфірную прастору расійскаму тэлебачанню, прайграла, не пачынаючы. Згодна апытанню НІСЭПД, праведзенаму ў сакавіку гэтага года, 65,8% рэспандэнтаў лічаць, што рускія, украінцы і беларусы — гэта тры галіны аднаго народа, а 57,8% перакананыя, што акупацыя Крыма — гэта ўзнаўленне гістарычнай справядлівасці.




**Рускія дыскрымінуюцца проста таму, што яны не ў Расіі. Кропка. Значыць, ёсць падстава для «вызвольнага паходу»**

Актыўнасць апалагетаў «русского мира» ў дачыненні да Беларусі — гэта падрыхтоўка «нізавой» грамадскай думкі. І гэтая грамадская думка павінна быць агрэсіўна-імперскай. Дастаткова заўважыць, што ў «мемарандуме Гіркіна» ўказваецца не толькі тое, што Беларусь і Украіна павінны быць у складзе новай Расійскай імперыі, але і тое, што рускія, якія жывуць у іншых дзяржавах, спрэс пакутуюць ад дыскрымінацыі.

І не важна, што Аляксандр Лукашэнка дасюль галоўным сваім дасягненнем лічыць, што ён «зняў рускіх з валізак» і надаў дзяржаўны статус рускай мове. Рускія тут дыскрымінуюцца проста таму, што яны не ў Расіі. Кропка. Значыць, ёсць падстава для «вызвольнага паходу».

Адпаведная грамадская думка фармуецца не толькі ў Расіі, але і ў Беларусі. Калі нашы МУС і КДБ не зоймуцца «вярбоўшчыкамі» і іншымі айчыннымі «байцамі ДНР», для грамадства гэта будзе азначаць, што ўлады лічаць такі стан рэчаў нармальным і поўнасцю згодныя з тым, што Беларусь — частка Расіі «па вызначэнні». І тады ўжо ніякія заклінанні пра «суверэнітэт» і «незалежную краіну» не дапамогуць. А калі ў Беларусі сапраўды пройдзе з'езд прыхільнікаў «русского мира», фактычна гэта будзе азначаць, што «пятая калона» ўжо тут.

У выпадку бяздзейнасці адказных за дзяржбяспеку, «беларуская кампанія» можа ўвогуле прайсці «без адзінага стрэлу». Але ці нам яно трэба?

# Праваабаронцы заклікаюць!

**30 чэрвеня 2016 года краіны-сябры Савета па правах чалавека ААН будуць галасаваць «за» ці «супраць» падаўжэння мандата спецдакладчыка па пытанні аб становішчы ў галіне правоў чалавека ў Беларусі.**

У сувязі з гэтым FIDH заклікае краіны, яшчэ не вызначылі сваю пазіцыю, да падтрымкі дадзенага мандата. Каб распавесці ўсяму свету пра сітуацыю ў Беларусі, FIDH праводзіць шырокую інфармацыйную кампанію.

На створанай старонцы Act4Belarus.org можна на французскай, англійскай і рускай мовах непасрэдна звяртацца ў сетцы Twitter да лідараў краін, якія яшчэ не вызначылі сваю пазіцыю (Вялікабрытанія, Эквадор, Кенія, Марока, Нігерыя, Кот-д'Івуар, Эфіопія, і г.д.), каб пераканаць іх галасаваць за падаўжэнне мандата спецдакладчыка.

«Нягледзячы на касметычныя меры, характар рэжыму, што знаходзіцца ва ўладзе амаль 22 гады, не змяніўся. Беларуская грамадзянская супольнасць па-ранейшаму знаходзіцца пад ціскам. За намі сочаць, ладзяць правакацыі», — заяўляе Алесь Бяляцкі, віцэ-прэзідэнт FIDH і старшыня Праваабарончага цэнтра «Вясна», які правёў амаль тры гады ў беларускіх турмах праз сваю праваабарончую дзейнасць. «Спецыяльны дакладчык ААН — гэта адзіны міжнародны механізм кантролю і інфармавання аб сітуацыі з правамі чалавека ў краіне, які ў нас застаўся. Яго мандат павінен быць падоўжаны».

Сістэмны характар парушэнняў правоў чалавека, якія дапускаюцца сёння ў Беларусі, пацвярджаецца сведчаннямі вядомых беларускіх праваабаронцаў — Алены Танкачовай (Цэнтр прававой трансфармацыі Lawtrend), Андрэя Бастунца (Беларуская асацыяцыя журналістаў), Раісы Міхайлоўскай (Беларускі дакументацыйны цэнтр), Валянціна Стэфановіча (Праваабарончы цэнтр «Вясна»), Наталлі Манькоўскай (Праваабарончы цэнтр «Ідэнтычнасць»). У эксклюзіўных інтэрв'ю, апублікаваных на сайце Act4Belarus.org, яны распавядаюць пра трывожныя здарэнні і сістэматычныя парушэнні розных правоў: свабоды прэсы і свабоды выказвання, свабоды асацыяцыяў, правоў асобаў ЛГБТ, а таксама пра наяўнасць у краіне смяротнага пакарання, палітычных зняволеных і гэтак далей.

Спецдакладчык ААН па Беларусі Міклаш Харасці заявіў: «Беларусь з'яўляецца адзінай краінай у Еўропе, якая прымяняе смяротнае пакаранне (...), адзінай краінай у Еўропе, дзе 70% эканомікі знаходзіцца пад непасрэдным кантролем прэзідэнта, адзінай краінай у Еўропе, дзе прэзідэнт мае поўны кантроль над грамадствам, і адзінай краінай у Еўропе, дзе ўжо 20 гадоў няма апазіцыі ў парламенце».

FIDH просіць карыстальнікаў Twitter і Facebook заклікаць лідараў сваіх і іншых краінаў галасаваць за падаўжэнне мандата спецдакладчыка ААН па Беларусі.

Спецыяльны дакладчык ААН па пытанні аб становішчы ў галіне правоў чалавека ў Беларусі, чыя пасада была створана ў 2012 годзе, мае наступныя паўнамоцтвы:

- Ажыццяўляць кантроль за сітуацыяй у галіне правоў чалавека і даваць рэкамендацыі па яе паляпшэнні.
- Дапамагаць у ажыццяўленні рэкамендацый, якія змяшчаюцца ў дакладзе Вярхоўнага камісара ААН Савета па правах чалавека.
- Дапамагаць беларускаму ўраду ў выкананні абавязальніцтваў, звязаных з правамі чалавека.
- Падтрымліваць і кансультаваць грамадзянскую супольнасць.
- Даследаваць, вывучаць і дзейнічаць, абапіраючыся на інфармацыйную базу, якая прадстаўлена ўсімі ўдзельнікамі праваабарончых працэсаў у Беларусі.
- Штогод прадстаўляць справаздачу па сітуацыі Савету па правах чалавека і Генеральнай Асамблеі ААН.

**Паводле spring96.org**

# Бандарэнку прэсуюць

**Валер Бандарэнка, бацька экс-кіраўніка арганізацый «Платформа» і «Платформ інавейшн» Андрэя Бандарэнкі, паведаміў аб чарговых правакацыях у дачыненні да сына.**

Паводле яго слоў, Андрэю нядаўна была абвешчана вымова за тое, што ён удзень ляжаў на нарах. Раней на гэта не звярталі ўвагі, а тут нечакана ўламіліся ў камеру і склалі пратакол за парушэнне рэжыму адбывання пакарання.

Пасля абвяшчэння спагнання ў камеры Бандарэнкі ўсталявалі відэакамеру, а на шпацыр сталі выводзіць у кайданках і пад ахowвай сабак.

Чаму рэжым адбыцця пакарання ў дачыненні да Бандарэнкі зрабілі больш жорсткім? Бацька асуджанага праваабаронцы мяркуе, што прычынай маглі стаць лісты Андрэя на волю, у якіх ён піша пра фальсіфікацыі следчых у сваёй крымінальнай справе.

Тым самым працэс «перавыхавання» Андрэя Бандарэнкі ўступіў у новую фазу.

**Міхаіл Пастухоў**

# «Газпрам» не ідзе на саступкі

Генадзь КЕСНЕР

**Газмпрам, як і расійскае кіраўніцтва, пакуль не жадае ісці на саступкі. Памер запазычанасці Беларусі перад Расіяй расце з кожным днём.**

Беларусь вінаватая «Газпраму» больш за 200 мільёнаў долараў за пастаўкі газу, заявіў журналістам намеснік кіраўніка праўлення холдынгу Аляксандр Мядзведзеў. Паводле яго слоў, маюць месца неплацяжы з боку беларускіх спажыўцоў. Яшчэ два тыдні таму расійскі бок называў лічбу ў 125 мільёнаў долараў, цяпер яна перасягнула, паводле Мядзведзева, 200 мільёнаў.

Абодва бакі распачалі сапраўдную тэарэтычна-практычную вайну ў адстойванні сваіх інтарэсаў. Расійскі бок настойвае на тым, што трэба выконваць раней падпісаныя пагадненні, беларускі ж урад упэўнены, што трэба зыходзіць з прынцыпаў «роўнадаходнасці» на энерганосьбіты з улікам падзення коштаў на нафту (да якой прывязаныя кошты на газ) і зніжэння курсу расійскага рубля.

Адны лічаць, што Беларусь, паводле ранейшых пагадненняў, павінна плаціць 132 долары за тысячу кубаметраў газа, іншыя (па словах афіцыйных беларускіх чыноўнікаў) — 73 долары. Розніца — амаль у два разы.

Даходзіць да таго, што «газпрамаўская дачка» — «Газпрам Трансгаз Беларусь» — звярнулася ў Міжнародны арбітражны суд Беларускай гандлёва-прамысловай палаты з зыскам да структураў, якія займаюцца газазабеспячэннем у Беларусі, у звязку з наяўнасцю запазычанасці з боку «аблгазаў» па аплаце ўжо пастаўленага прыроднага газа ў нашу краіну.

Спачатку была спроба вырашыць пытанне на ўзроўні міністраў адпаведных ведамстваў. Але нічога не атрымалася. Пазней была спроба вырашыць пытанне ўжо на ўзроўні віцэ-прэм'ераў. Але сустрэча ў панядзелак Уладзіміра Сямашкі (Беларусь) і Аркадзія Дварковіча (Расія) у гэты панядзелак ні да чаго не прывяла. І вось «Газпрам» агучыў новыя лічбы беларускай запазычанасці.

Для абодвух бакоў цана на газ робіцца даволі важнай, хаця для Мінска больш прынцыповай, лічыць доктар эканамічных навук прафесар Барыс Жаліба. «Мы зараз апынуліся ў вельмі кепскім эканамічным становішчы. Але я мяркую, што для шараговых беларусаў і для прадпрыемстваў нічога не зменіцца, калі нават Расія і пагодзіцца зрабіць зніжку на кошты пастаўленага газу ў Беларусь, бо гэтую розніцу забярэ сабе беларускі ўрад. Вельмі ж патрэбны гэтыя долары Беларусі, таму для нашай краіны пытанне цэн на газ цяпер больш важныя, чым для Расіі», — адзначае эксперт.

Масква пакуль не збіраецца ісці насустрач Мінску. Хоць, як мяркуе прафесар Барыс Жаліба, папярэднія практыкі паказваюць, што Крэмль урэшце ніколі не пакідаў Лукашэнку ў бядзе. Відаць, так будзе і гэтым разам.

# Слуцк без трыкалору!

Зінаіда ЦІМОШАК

**З-за расійскіх сцяжкоў і іншых пабочных прадметаў на лабавым шкле два слуцкіх кіроўцы пазбаўлены прэміяльных.**

Кіраўніцтва філіяла «Аўтобуснага парка №2» аператыўна адрэагавала на зварот слуцкага актывіста БНФ Віталя Амяльковіча з нагоды размяшчэння расійскага сцяга і іншых пабочных прадметаў на лабавым шкле ў гарадскім маршрутным аўтобусе №3. Сцяг зняты, а абодва кіроўцы атрымалі вымовы і пазбаўлены прэміі на 20%.

У многіх рэгіёнах краіны можна ўбачыць расійскія трыкалоры ў звычайным грамадскім транспарце. Слуцк — не выключэнне.

Віталь Амяльковіч, які пачаў асабістае змаганне з расійскімі сцягамі ў слуцкім рэгіёне, заўважыў сімвал замежнай дзяржавы ў гарадскім маршрутным аўтобусе №3.

«Раніцай 17 мая 2016 года на прыпынку «Дом культуры» я ўбачыў, што на лабавым шкле аўтобуса знаходзіцца сцяг Расійскай Федэрацыі. Мне як грамадзяніну Беларусі было вельмі непрыемна бачыць дэманстрацыю сцяга замежнай дзяржавы, якая праводзіць даволі небяспечную знешнюю палітыку, — расказаў Віталь. — Бачыў аўтобус з такім сцяжком некалі разоў у горадзе. Спецыяльна чакаў яго на прыпынку. Калі пачаў фатаграфаваць, кіроўцу гэта не спадабалася. Ведаю, што такія выпадкі ёсць па ўсёй краіне, — працягвае грамадскі актывіст. — Трэба, каб нехта пастаянна за гэтым сачыў. Лічу, што вялікая рака пачынаецца з малых ручаінак, і гэтая дробязь — вельмі істотная. Асабліва на тле падзей ва Украіне. Спачатку з'яўляюцца сцяжкі, а пасля могуць з'явіцца і партрэты Уладзіміра Пуціна. У Данбасе таксама пачыналася са сцяжкоў».

Случчанін напісаў звароты з гэтай нагоды ў аўтобусны парк №2 і ў ААТ «Мінскаблаўтатранс». Апроч канстатацыі факту, малады чалавек звярнуў увагу кіраўніцтва аўтатранспарту на недахоп выхаваўчай працы з работнікамі прадпрыемства і пэўныя недапрацоўкі ідэалагічных работнікаў.

Атрыманы і адказ. Кіраўніцтва аўтобуснага парка №2 паведаміла, што з кіроўцамі Спіравым Валерыем і Анцыповічам Уладзімірам праведзена тлумачальная гутарка наконт недапушчальнасці выкарыстання пабочных прадметаў на ветравым шкле аўтобуса. Адначасова ім абвешчаны вымовы з пазбаўленнем прэміі.

Таксама дырэктар аўтобуснага парка №2 М. Валетка праінфармаваў аб правядзенні спецыяльнага інструктажу з кіроўцамі філіяла 24 мая 2016 года і адмысловага сходу кандуктараў і кіроўцаў па праблеме.

# Памяці Вацлава Нямковіча

Грамадскасць развіталася са старшынёй грамадскага аб'яднання «Хрысціянская злучнасць «Курапаты» Вацлавам Нямковічам, які адышоў у лепшы свет 30 мая на 88-м годзе жыцця.

Вацлаў Адольфавіч быў вельмі шляхетным чалавекам, прайшоў вялікае жыццё, шмат чаго бачыў і разумеў.

Інжынер па адукацыі, ён працаваў у акадэмічным інстытуце, з 1990-х узначаліў «Хрысціянскую злучнасць «Курапаты», напрыканцы 2013-га спрычыніўся да стварэння новай грамадскай ініцыятывы «Эксперты ў абарону Курапатаў».

Два з паловай гады мы крочылі поруч, аб'яднаныя адной мэтай — абаранцы Курапаты ад дзялкоў і вандалаў, глыбей дазнацца пра гісторыю гэтага нацыянальнага знаку бяды, у тым ліку пра імёны расстраляных і іх катаў, распаўсюдзіць гэтыя веды.

Разам з намі Вацлаў Нямковіч марыў пра той час, калі Курапаты атрымаюць мастацкае абрамленне ў выніку адкрытага грамадскага конкурсу на лепшую ідэю мемарыялізацыі ўрочышча. Дарэчы, спадар Вацлаў быў абраны ў журы гэтага творчага спаборніцтва.



Мы будзем памятаць цябе, дарагі Вацлаў Адольфавіч. І падаўжаць тваю справу. Пухам табе зямля.

**Марат Гаравы**

*«Новы Час» выказвае шчырыя спачуванні родным і паплечнікам Вацлава Адольфавіча. Светлая яму памяць...*

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Пашукайце ў кішэні

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Улады, відавочна, застылі на месцы. Яны не ведаюць, што рабіць з эканомікай. Становішча людзей тым часам усё пагаршаецца. У сувязі з гэтым вельмі цікава, што нам распавядуць на чарговым Усебеларускім сходзе.**

Як высветлілася, справаздачу перад народам рыхтуе няззломны Міхаіл Мясніковіч. Ён жа з'яўляецца і кіраўніком міжведамаснай рабочай групы па падрыхтоўцы праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на 2016–2020 гады. У інтэрв'ю праграме «Галоўны эфір» тэлеканала «Беларусь 1» Міхаіл Уладзіміравіч раскрыў таямніцу «залатога ключыка», які можа забяспечыць эканамічны рост краіны.

Чыноўнік, у прыватнасці, заявіў: «Мы выступаем за беспазыкавы плацежны баланс краіны, за збалансаванае развіццё. У якасці прыярытэтаў — занятасць, экспарт і інвестыцыі».

Паводле яго слоў, разлікі гавораць пра тое, што рэальна за пяцігодку можна выходзіць на аб'ёмы валавога ўнутранага прадукту ў 110–115%, экспарту — 120–125%. Рэальныя наяўныя грашовыя даходы насельніцтва — у межах 9,5—11% пры росце прадукцыйнасці працы па ВУП — 11–15%.

А вось за кошт чаго мы дасягнем гэтых вышыняў? Па словах Мясніковіча, нам «патрэбна новая эканоміка і новыя прадпрыемствы, а для гэтага, безумоўна, патрэбны інвестыцыі». Дзе іх узяць, Мясніковіч не ведае: «Рэальна іх няма. Бюджэт не можа сабе дазволіць. Прыбытку ў дзейных прадпрыемстваў няма. Банкаўскія крэдыты бедныя і дарагія», — канстатаваў ён. Паводле разлікаў урада, дэфіцыт абаротных сродкаў ацэньваецца ў 8,4 мільярда долараў. «Значыць, гэтых сродкаў таксама няма», — сказаў Мясніковіч.

Гэта вельмі трывожны званочак для шараговых насельнікаў Беларусі. Бо, паводле падлікаў таго ж урада, прыкладна такая сума знаходзіцца ў насельніцтва «ў панчохах». Імаверна, што ўлада будзе спрабаваць выцягнуць з грамадзян іх зберажэнні.

Што праўда, Мясніковіч знайшоў адзін спосаб выхаду з крызісу. Праўда, да яго гэты спосаб знайшлі ўсе цывілізаваныя краіны сто гадоў таму. Паводле кіраўніка Савета Рэспублікі, забяспечыць выкананне прагнозных паказчыкаў «можна за кошт актыўнага развіцця прыватнага сектара і новых прадпрыемстваў». «Для гэтага трэба раскняволіць дзелавую ініцыятыву людзей», — адзначыў ён.

Мясніковіч расказаў, што міжведамасная рабочая група ўнесла і ўрад падтрымаў пытанне аб неабходнасці вызвалення малых і сярэдніх прадпрыемстваў у вытворчай сферы, створаных у 2016–2017 гадах, на два гады ад усіх падаткаў, акрамя абавязковых страхавых плацяжоў.

Малайчына, Мясніковіч! Пра спрыяльныя ўмовы для малога бізнесу і вызваленне новых прадпрымальнікаў ад падаткаў ужо гадоў дзесяць кажуць незалежныя эканамісты. З гэтымі прапановамі яны ўжо ўсім плеш праелі.

Няблага было б старшыні Савету Рэспублікі патлумачыць, як гэта будзе дзейнічаць ва ўмовах указу №222, наконт якога таксама ўжо надакучыла казаць, што ён забівае прыватны бізнес. Варта было б і ўзгадаць, што папярэднічала праграма Аляксандра Лукашэнкі прадугледжвала мараторый на новыя падаткі ажно на пяць гадоў, і распавесці, чаму гэта не выконваецца. А калі кажам пра занятасць (прыярытэт паводле Мясніковіча), то і прадпрымальнікам давядзецца дзеля 50 тысяч новых працоўных месцаў, якія нам абяцалі ў абмен на павышэнне пенсійнага ўзросту.

**Звольненыя працоўныя займаюць чаргу перад цэнтрам занятасці з шасці раніцы. Прычым заробкі на прапанаваных вакансіях знізіліся ў сярэднім на 20%, а колькасць шукальнікаў працы павялічылася ў чатыры з паловай разы**

Праўда, гэта нас не выратуе. Па звестках Міністэрства эканомікі, зараз 20 тысяч чалавек працуюць на прадпрыемствах, якія праходзяць працэдуру банкруцтва. Яшчэ 470 тысяч — на прадпрыемствах, якія знаходзяцца ў складаным фінансавым стане. То бок, усяго пад пагрозай звальнення каля паўмільёна людзей.

Між тым, ужо сёння, па тых жа афіцыйных лічбах дзяржаўных цэнтраў занятасці, на адну вакансію прэтэндуюць чатыры чалавекі. Каб патрапіць першымі ў кабінет да кансультанта па працаўладкаванні, звольненыя працоўныя займаюць чаргу перад цэнтрам занятасці за 2 гадзіны да яго адкрыцця, з шасці раніцы. Прычым адзначаецца, што заробкі на прапанаваных вакансіях знізіліся ў сярэднім на 20%, а колькасць шукальнікаў працы павялічылася з мінулага года ў чатыры з паловай разы.

Зразумела, з гэтым трэба нешта рабіць. Міністэрства працы задумалася над падвышэннем дапамогі па беспрацоўі, якое зараз максімальна складае дзве базавыя велічыні — 21 долар у эквіваленце. Пры тым, што максімальную дапамогу атрымліваюць не ўсе, сярэдняя «беспрацоўная» дапамога складае 13 долараў. У планах пакуль гучаў арыенцір — замяніць памер базавай велічыні памерам бюджэту пражытковага мінімуму (цяпер 1 699 430 рублёў, або 85 долараў). Гэта значыць, прапануецца рост прыкладна ў 4 разы.

Але ж гэтыя грошы трэба аднекуль узяць! А ў нас, паводле Мясніковіча, у бюджэце грошай няма.

Цікавую думку на гэты конт выказаў старэйшы даследчык CASE-Беларусь Уладзімір Валетка. Паводле яго падлікаў, максімальны памер дапамогі варта ўсталяваць не ў адзін, а ў два бюджэты пражытковага мінімуму. Гэта, па-першае, каля 50% ад сярэдняй заработнай платы — то бок, дастаткова добры ўзровень дапамогі па беспрацоўі. І ў той жа час на гэта спатрэбіцца 0,2% ВУП краіны.

Па словах Валеткі, сёння не менш за 4% ВУП трацяцца на падтрымку малаэфектыўных (чытай — стратных) прадпрыемстваў. Калі гэтыя 0,2% ВУП для беспрацоўных выцягнуць з дзяржпадтрымкі стратных прадпрыемстваў, то задача цалкам вырашальная.

Засталося толькі пралічыць, наколькі павысіцца тое самае беспрацоўе, калі замест 4% падтрымкі стратных прадпрыемстваў мы дадзім ім 3,8%.

Як паказвае прыклад прапановы Валеткі, насамрэч, грошы ў дзяржавы ёсць. Толькі выкарыстоўваюцца яны неэфектыўна. Таму трэба пашукаць, дзе яны знікаюць, і накіраваць туды, дзе яны патрэбныя.

Будзем спадзявацца, што першай ластаўкай у гэтым кірунку з'яўляецца адмена сумнавядомага дэкрэта №9, які забараняў працоўным звальняцца з мадэрнізаваных дрэваперапрацоўчых прадпрыемстваў. Указ пра тое, што гэты дэкрэт страціў моц, падпісаны Лукашэнкам 27 мая. «Мадэрнізацыя», у выніку якой мадэрнізаваныя прадпрыемствы паглоўна апынуліся ў стратных, каштавала нам дорага. Значыць, яна скончаная. І гэта таксама зэканомленыя грошы.

Так што, калі добра пашукаць, сродкі, як высвятляецца, можна знайсці і ў дзіравай кішэні.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Андрэй Тур

**Адзін з самых вядомых чыноўнікаў-эканамістаў, ліберал старой школы пайшоў з жыцця на 63-м годзе жыцця.**

Андрэй Тур — выпускнік мінскага Наргаса, які абараніў кандыдацкую дысертацыю ў 27 гадоў, а доктарскую — у 39, заняў пасаду намесніка міністра эканомікі ў 1995 годзе. Ён быў адным з доўгажыхароў сярод намміністраў, займаючы гэтую пасаду да лістапада 2011 года.

Тур выступаў за шэраг прагрэсіўных ініцыятыў. Не без яго ўдзелу пабачыла свет прэзідэнцкая дырэктыва №4 аб лібералізацыі. Ён ахвотна ішоў на дыялог з прадстаўнікамі дзелавых колаў, яго часта можна было бачыць на мерапрыемствах, арганізаваных бізнес-саюзамі.

У той жа час Тур заслужыў нелюбоў у індывідуальных прадпрымальнікаў, выступаючы супраць дазволу ІП наймаць супрацоўнікаў не з ліку блізкіх сваякоў. А яго парада аднаму з прадпрымальнікаў «жыць па сродках» стала хітом у інтэрнэце.

У 2011 годзе Тура прызначылі намеснікам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта. Гэтай пасады ён пазбавіўся ў канцы 2013-га, пасля прэзідэнцкага разносу на «Барысаўдрэве». У апошнія гады Тур быў загадчыкам кафедры ў БНТУ, нядаўна перанёс аперацыю на сэрцы.

Рэдакцыя выказвае спачуванні родным і сябрам Андрэя Тура.

## Андрэй Курэйчык

**Знакаміты беларускі драматург і рэжысёр абвясціў пра пачатак працы над поўнаметражнай моладзевай камедыяй пад рабочай назвай «Партызанфільм».**



Учэрвені будзе сабраная здымачная група, здымкі плануецца пачаць у жніўні, каб выйсці ў навагодні кінапракат.

«Я ўпэўнены, што, калі мы паспеем выпусціць фільм да новага года, ён будзе паспяховым і цалкам акупіцца, — сказаў Курэйчык. — Пасля нашага мінулага праекта «ГараШ» мы ўлічылі памылкі, падлічылі шышкі. Калі першы беларускі незалежны фільм мы знялі за чатыры дні, то новы будзем здымаць не менш за 15, раней запусцім маркетынг. Здымкі будуць праходзіць у Мінску, Брэсце і паміж імі. Магчыма, паспеем нават да «Лістапада».

Фільм пра прыгоды трох маладых людзей у пошуках хуткіх і лёгкіх грошай, пра тое, як праграміст, бізнесмен і студэнтка ў Беларусі здымаюць фільм пра вайну. «Як звычайна, мы пачынаем без грошай, але спадзяемся знайсці партнёраў, — сказаў Курэйчык. — Будзем шукаць сродкі таксама ў сацсетках, на платформе talaka.by».

«ГараШ» сабраў у беларускіх кінатэатрах больш за 300 мільёнаў рублёў, альбо сем сваіх бюджэтаў. Ён абагнаў у пракаце такія фільмы, як «Стаўка на каханне» з Аляксандрам Рэвай, «У актыўным пошуку», і нават амерыканскі «Блакітны бераг» з Анжалінай Джолі і Брэдам Пітам.



## Віталь Гуркоў

**Беларускі тайбаксёр і саліст гурта «Brutto» стаў чэмпіёнам свету па муай-тай.**

На спаборніцтвах у Швецыі Віталь Гуркоў перамог Экапхана Самбунсаба з Тайланда, які не прайграваў цягам апошніх чатырох гадоў.

Нагадаем, што Міністэрства спорту не хацела пасылаць яго на чэмпіянат: нібыта на гэта не было грошай. У адказ прыхільнікі Гуркова і «Brutto» менш чым за дзень сабралі неабходныя тры тысячы еўра. Пасля грошы знайшліся і ў чыноўнікаў. У выніку Віталь паабяцаў перадаць сабраныя сродкі ў дзіцячы дом, а сам атрымаў мянушку «народны чэмпіён». Якую і пацвердзіў сваёй перамогай.

Сам Гуркоў кажа, што яго такая падтрымка проста шакавала. «Але і прыемна было — гэта была рэальна народная падтрымка. Таму я быў скіраваны толькі на перамогу. Мяне так людзі падтрымалі, людзі верылі ў маю перамогу, і гэта толькі дадавала матывацыі», — сказаў ён пасля перамогі.

а | Азбука паліталогіі

# Канец эпохі «маналітнай свядомасці»



Сяргей НІКАЛЮК

**Дзяржава з яе ўладнай «вертыкаллю» і матэрыяламі да «Адзінага дня інфармавання насельніцтва» ўсё больш нагадвае цётачку, якая прыехала з краіны, «дзе многа дзікіх малпаў».**

Якімі падзеямі XX стагоддзя беларусы ганарацца ў найбольшай ступені? Адказ на гэта пытанне відавочны — перамогай у Вялікай Айчыннай вайне. У чэрвені 2013 года так лічылі 78% дарослага насельніцтва рэспублікі-партызанкі (НІСЭПД). На другім месцы — здабыццё дзяржаўнай незалежнасці ў 1991 годзе. У якасці прадмета гонару на гэта ўказалі 40%. Амаль двухразовае адставанне!

Здзіўляцца гэтаму не даводзіцца. «Мы змагаліся за праўду пра вайну. За праўду пра вас», — адзначыў на ўрачыстым мерапрыемстве ў гонар Дня Перамогі 9 мая адзіны палітык (АП). Тут спатрэбіцца каментар.

Гісторыя — гэта тое, што мы думаем пра гісторыю, а Вялікая Айчынная вайна — гэта тое, што мы думаем пра Вялікую Айчынную вайну. Родная «дзяржава для народа» хоча, каб мы думалі пра вайну выключна як пра подзвіг, як пра Перамогу.

Культ Перамогі здымае адказнасць з савецкай улады за мільёны і мільёны ахвяр. Культ Перамогі дазваляе цяперашняй уладзе выступіць у ролі адзінага спадчынніка пакалення пераможцаў. Культ Перамогі для простага чалавека становіцца галоўнай падставай для самапавагі.

## «Усялякае мінулае вартае асуджэння»

Нямецкі філосаф Фрыдрых Ніцшэ ў працы «Пра карысць і шкоду гісторыі для жыцця» вылучаў тры тыпы гісторыі: манументальная гісторыя для чалавека, які ганарыцца ўчынкамі продкаў; антыкварная гісторыя, якая займаецца пятліцамі на палкавой форме; крытычная гісторыя, якая вывучае ўчынкі людзей і іх вынікі.

Нескладана зразумець, якому тыпу гісторыі аддае перавагу АП. Погляд на гісторыю як на крыніцу для гонару ўчынкамі продкаў вызваляе ад сумнення, бо «тое вялікае, якое некалі існавала, <…> можа калі-небудзь стаць магчымым яшчэ раз». Аднак пакуль гісторыя ўяўляецца выключна ў якасці вартых пераймання прыкладаў, папярэджвае філосаф, «цэлыя значныя раздзелы мінулага падпадаюць забыццю і ўтвараюць як бы шэрую плынь, сярод якой узвышаюцца, як выспы, асобныя размаляваныя факты».

Аднак немагчыма вырашыць праблемы сучаснасці, калі абапіраца выключна на манументальную гісторыю. Гісторыя патрэбная «для жыцця і дзейнасці, а не для зручнага ўхілення ад жыцця і ўчынкаў або для апраўдання сябелюбнага жыцця і баязлівай ды кепскай дзейнасці».

Антыкварная гісторыя дазваляе чалавеку звярнуць свой позірк туды, адкуль ён з'явіўся, дзе ён стаў тым, чым ён ёсць. Яна прывязвае носьбіта антыкварных ведаў да радзімы і родных звычаяў, робіць яго больш аселым і ўтрымлівае ад імкнення шукаць шчасця на чужыне.

Але цікаўнасць да старога, да пылу бібліяграфічных дробязяў здольная толькі захоўваць жыццё, а не спараджаць яе. Таму яна «стрымлівае энергічную рашучасць на новае, паралізуе сілы дзеяча, які заўсёды будзе вымушаны абражаць некаторыя святыні».

Гісторыя для жыцця і дзейнасці, нароўні з манументальным і антыкварным спосабамі вывучэння мінулага, мае патрэбу ў трэцім складніку — крытычным. Чалавек, падкрэсліваў філосаф, павінен «сілай разбіваць і разбураць мінулае, каб мець магчымасць жыць далей. Гэтай мэты ён дасягае тым, што выцягвае мінулае на суд гісторыі, падвяргае мінуўшчыну самаму дбайнаму допыту і, нарэшце, выносіць ёй прысуд. Усякае мінулае вартае асуджэння, бо ўсе чалавечыя справы такія: заўжды ў іх магутна адбіваліся чалавечая сіла і чалавечая слабасць».

## Адкрыццё «жалезнага азадка»

Правам змагацца «за праўду пра вайну» беларуская Канстытуцыя надзяліла не толькі АП. Такое права мае кожны грамадзянін рэспублікі, у тым ліку і аўтар «Азбукі паліталогіі».

Для мяне вайна — гэта, у першую чаргу, злачынствы ўлады. За прыкладамі далёка хадзіць не трэба. Прапаную звярнуцца да дакладу старшыні Савета Народных Камісараў СССР і народнага камісара замежных спраў таварыша Вячаслава Молатава аб знешняй палітыцы савецкага ўрада 31 кастрычніка 1939 года.

Што ж распавёў краіне і свету гэты «жалезны азадак» (так паміж сабой яго называлі калегі за ўседлівасць і працавітасць)?

Па-першае, ён канстатаваў разгром Польшчы: «Аказалася дастаткова кароткага ўдару па Польшчы з боку спачатку германскай арміі, а затым — Чырвонай Арміі, каб нічога не засталося ад гэтага выродлівага спараджэння Версальскай дамовы, што жыло за кошт прыгнёту няпольскіх нацыянальнасцяў».

Па-другое, Молатаў напоўніў слова «агрэсія» новым зместам: «Цяпер, калі казаць пра вялікія дзяржавы Еўропы, Германія знаходзіцца ў становішчы дзяржавы, што імкнецца да хутчэйшага заканчэння вайны і да міру, а Англія і Францыя, якія ўчора яшчэ агітавалі супраць агрэсіі, выказваюцца за працяг вайны і супраць заключэння міру. Ролі, як бачыце, змяняюцца».




Як тут ні прыгадаць Джорджа Оруэла: «Вайна — гэта мір».

Намаганні па ўтаймаванні агрэсара дазволілі «жалезнаму азадку» правесці паралель з рэлігійнымі войнамі: «У свой час былі модныя рэлігійныя войны супраць ерэтыкоў і іншаверцаў. <…> Ці не да гэтых часоў сярэднявечча, да часоў рэлігійных войнаў, забабонаў і культурнага адзічэнне нас зноў цягнуць паноўныя класы Англіі і Францыі? Ва ўсякім выпадку, пад «ідэалагічным» сцягам цяпер задуманая вайна яшчэ большага маштабу і яшчэ больш небяспечная для народаў Еўропы і ўсяго свету. Але такога кшталту вайна не мае ніякага апраўдання».

Вось такая праўда пра вайну. Восенню 1939 года ўсялякія спробы супрацьстаяць нацысцкай агрэсіі разглядаліся савецкім кіраўніцтвам у якасці «культурнага адзічэнне» ды вяртання да часоў сярэднявечча.

А сёння ва ўмовах разнастайнасці палітычных інстытутаў, ідэалогій і меркаванняў, гарантаваных Канстытуцыяй (артыкул 4), што думаюць беларусы пра пакт Молатава — Рыбентропа? Адназначна падтрымліваюць/хутчэй падтрымліваюць — 39%, хутчэй асуджаюць/ безумоўна асуджаюць — 16%, нічога не ведаюць пра гэта — 45% (НІСЭПД, чэрвень 2015 года). Гэта значыць, што варыянт праўды пра пачатак Другой сусветнай вайны ў трактоўцы «жалезнага азадка» працягвае жыць і перамагаць у краіне, кіраўніцтва якой з трох тыпаў апісання мінулага аддае перавагу манументальнай гісторыі.

## Трайны кантроль

Гісторыя любой вайны асуджаная, як мінімум, на дзве інтэрпрэтацыі: «ад пераможцаў» і «ад пераможаных». Яны знаходзяцца адзін з адным у няпростых, часта канфліктных адносінах. Але ў расколатым беларускім грамадстве абедзве яго часткі («большасць» і «меншасць») у роўнай ступені з'яўляюцца спадкаемцамі пераможцаў. Тым не менш у кожнай частцы грамадства была свая вайна.

Ацэнка дзейнасці партызан — толькі адзін з прыкладаў адсутнасці адзінага погляду на вайну. Пра жорсткасць, якую беларускія партызаны падчас вайны дапускалі ў дачыненні да мірнага насельніцтва, чулі 57 працэнтаў, не чулі — 42 працэнты (НІСЭПД, чэрвень 2015 года). 29 працэнтаў наогул не вераць, што такія факты мелі месца, вераць у гэта 56 працэнтаў.

Манапалізацыя афіцыйнай версіі гісторыі — найважнейшы інструмент маніпулявання грамадскай свядомасцю. Зноў звернемся па дапамогу да Джорджа Оруэла: «Хто кантралюе мінулае — кантралюе будучыню, хто кантралюе сучаснасць — кантралюе мінулае».

Такая схема ўтрымання ўлады ў таталітарных/ аўтарытарных палітычных сістэмах. І не істотна, якім шляхам прысвоена права панаваць. Дэмакратычныя выбары, як сведчыць постсавецкая гісторыя, не перашкодзілі пераможцам атрымаць усё. У тым ліку і права адначасова фармаваць «карціну свету» ў галовах суайчыннікаў. Далей усё адбывалася паводле Оруэла: ад кантролю сучаснасці да кантролю мінулага з мэтай кантролю будучыні.

Мінуўшчыну змяняць нашмат прасцей, чым сучаснасць. Прыгадаем спробы «моцнай дзяржавы» мадэрнізаваць прадпрыемствы дрэваапрацоўчай галіны. Канчатковую суму страт беларускія падаткаплацельшчыкі наўрад ці калі-небудзь даведаюцца. Але такога кшталту правалы можна прыкрыць герaічнымі прыкладамі з манументальнай гісторыі, што на практыцы і назіраецца.

## Ад масавых узораў да індывідуальных

Здавалася б, у Беларусі магчымасці дзяржаўных і недзяржаўных СМІ па фармаванні пажаданых «карцін свету» абсалютна не супастаўныя. Чаму ж тады «аднадумства», што дэкларуецца АП, не пацвярджаецца на практыцы? Для адказу на гэта пытанне нам трэба з бытавога ўзроўню падняцца на ўзровень азбукавых паліталагічных ісцін.

Зафіксаванае Оруэлам «аднадумства» — прадукт індустрыяльнай цывілізацыі, што сканцэнтравала на фабрыках тысячы ўчорашніх сялян. Вырваныя са сваіх лакальных сусветаў, гараджане ў першым пакаленні мелі патрэбу ў новай ідэнтычнасці наўзамен страчанай. Яе фармаванню спрыяла канцэнтрацыя і стандартызацыя ў прамысловасці, адкуль яна патрапіла ў паўсядзённае жыццё і палітыку ў выглядзе масавай культуры і дзяржаўных ідэалогій.

На думку амерыканскага сацыёлага і футуролага Элвіна Тофлера, «людзі купаліся ў свеце вобразаў, якія выраблялюцца масава. Адносна невялікая колькасць газет, часопісаў, фільмаў, радыё- і тэлеперадач, якія выраблюцца цэнтралізавана, забяспечвала тое, што крытыкі называюць «маналітнай свядомасцю». <…> Круг сацыяльна ўхвальных стыляў паводзін асобы быў адносна вузкі».

Сучаснай моладзі цяжка ўявіць, што колькасць тэлеканалаў можа быць меншая за колькасць пальцаў на адной руцэ. Але сёння чалавеку, які хоча быць у курсе сусветных падзей, не абавязкова ўключаць тэлевізар і чытаць газеты.

Інфармацыйная разнастайнасць — толькі адна з характарыстык постіндустрыяльнай цывілізацыі. Сучасны свет на нашых вачахператвараецца ў свет адасобленых меншасцяў, здольных умацоўваць свае ўнутраныя сувязі на любой аснове — этнічнай, рэлігійнай, узроставай, і да т. п. Узнікае эпоха разнастайнасці стыляў жыцця. І ў гэтай разнастайнасці беларуская дзяржава з яе жорсткай уладной «вертыкаллю» і матэрыяламі да «Адзінага дня інфармавання насельніцтва» ўсё больш нагадвае цётачку, якая прыехала з краіны, «дзе шмат дзікіх малпаў».

Ахвочым у гэтым пераканацца рэкамендую не прапусціць 5-ы Усебеларускі народны сход. Ён адбудзецца ў Мінску 22–23 чэрвеня.

# Садовыя таварыствы патрабуюць грошы

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Не так даўно незалежныя СМІ скаланула навіна — у вядомай 69-гадовай грамадскай актывісткі Ніны Багінскай канфіскавалі пральную машыну, мікрахвалёўку, а таксама апісалі зямельныя ўчасткі. Калі тэхніку сапраўды забралі для пагашэння 40-мільённых судовых штрафаў за ўдзел у вулічных акцыях апазіцыі, апісанне ўчасткаў звязана з зусім іншай, аднак не менш абуральнай гісторый.**



«Я нарадзілася пасля Другой сусветнай вайны ў разбураным Мінску і заўжды мела мару жыць у садзе сярод дрэваў, любіла лес. Мая бабуля-гараджанка абагаўляла зямлю, казала, што зямля — святая, яна корміць людзей. Мара споўнілася напрыканцы 80-х гадоў, калі пачынаў распадацца СССР — тады людзям сталі даваць садовыя ўчасткі. Так і ў маёй сям'і з'явіліся два ўчасткі — адзін — далёка, за Пухавічамі, другі — бліжэй, у Смалявіцкім раёне, каля вёскі Дамашаны. Мне туды з працы было ехаць нават бліжэй, чым дадому», — распавядае Ніна Багінская.

Некалькі дзесяцігоддзяў жанчына пацыху апрацоўвала зямлю, высадзіла сад, збудавала невялікія дамкі. Аднак пачынаючы з восені 2015 года немаладая жанчына замест таго, каб спакойна адпачываць на лецішчы, вымушана займацца фінансавымі разбіральніцтвамі з кіраўніцтвам садовых таварыстваў.

«У верасні 2015-га я заплаціла 500 тысяч членскіх складак у СТ «Геолаг» (ля Смалявіч) — кіраўніцтва таварыства з гэтым пагадзілася і ніякіх прэтэнзій не мела. І раптам я атрымліваю позву ад судовага выканаўцы з патрабаваннем аплаціць яшчэ нейкія 580 тысяч пазыкі — на якой падставе СТ вырашыла спагнаць з мяне гэтыя грошы і чым абгрунтавана менавіта такая сума, я не ведаю», — гаворыць Ніна Багінская.

Гісторыя з другім садовым таварыствам — «Фізтэх» (што пад Пухавічамі) больш пакручастая, аднак і кошт прэтэнзій куды вышэйшы. Тамтэйшае кіраўніцтва патрабуе ад небагатай жанчыны ажно дзесяць з паловай мільёнаў! Пры гэтым, тры з паловай мільёны — быццам бы складаюць уласна ўнёскі, а яшчэ сем мільёнаў — працэнты за пратэрміноўку аплаты.

«Гісторыя цягнецца яшчэ з 1996 года. Таварыства збірала грошы на пабудову водаправода, аднак замест водаправодных труб нам паклалі невядома што, гэтыя трубы вельмі хутка пачалі выходзіць са строю. З-за гэтага на маім участку стварылася балота. Я напісала заяву тагачаснаму старшыні СТ пра тое, што пакуль мне на ўчастак не пакладуць нармальныя трубы, плаціць агульныя ўнёскі не буду. З таго часу старшыні мяняліся, але ніхто так і не здолеў сабраць грошай, каб усім чальцам СТ зрабіць добры водаправод. Трубы не падлягалі рамону, і я была вымушана за свой кошт выкапаць сажалку, каб туды цякла вада і не забалочваўся ўчастак. Праз вялікую вільготнасць сапсаваўся мой хлеў — у ім спарахнела падлога.

У 2005 годзе я набыла закінуты суседскі ўчастак (мой першы быў толькі 6 сотак), і з мяне сталі патрабаваць двайную аплату. Гэта незаконна, бо яшчэ адным чальцом у СТ я не стала. У адказ на мае прэтэнзіі кіраўніцтва СТ стала мне пагражаць, што не пусціць на ўчастак, а пасля нехта нават падпаліў мой садовы дамок (ходзяць чуткі, што да гэтага датычнае кіраўніцтва СТ), аднак крымінальную справу па гэтым здарэнні міліцыя не пачала — падпальшчыка не знайшла. Тады я адмовілася плаціць і мэтавыя складкі, дык пасля гэтага мне адключылі ваду цалкам, а электрычнасці я і так не мела», — апавядае спадарыня Багінская.

Урэшце ў 2013 годзе Ніна Багінская напісала заяву пра выхад з СТ. Яе выключылі, аднак у хуткім часе жанчына атрымала натарыяльны ліст з патрабаваннем аплаціць больш за дзесяць мільёнаў рублёў.

«За што? Ніякіх паслуг з 2006 года СТ мне не аказвае. З траўня 2013-га я не з'яўляюся чальцом СТ, а з мяне патрабуюць складкі нават за 2014 год. Больш за тое, патрабуюць у двайным памеры насуперак заканадаўству. Сума не пацвярджаецца дакументальным разлікам, яна празмерна вялікая. Патрабуюць грошы за зімнія месяцы — напрыклад, за зіму 2012–2013 года я мушу сплаціць 520 тысяч, за зіму 2013–2014-га — 433 тысяч. Але зімой жа ніякая дзейнасць у таварыстве не вядзецца? За што ім плаціць?» — абураецца Ніна Багінская.

Жанчына шукала абароны ва ўсіх інстанцыях — Генеральнай пракуратуры, абласной пракуратуры, у Беларускай натарыяльнай палаце, у Мінгарвыканкаме... Самы здзеклівы адказ пенсіянерцы прыйшоў з Міністэрства працы і сацыяльнай абароны — чыноўнікі напісалі, што ў гэтай сітуацыі нічым дапамагчы не могуць, аднак суцешылі, што пенсіянеры маюць 50% зніжку на праезд падчас сезонных сельскагаспадарчых прац.

Іншыя дзяржаўныя органы ж скіроўваюць жанчыну ў суд. Прэзідэнцкі ўказ №366 «Пра некаторыя пытанні натарыяльнай дзейнасці» дазваляе натарыюсам самастойна вяртаць запазычанасці цяперашніх ці былых чальцоў СТ — то бок, кіраўніцтва СТ у спрэчнай сітуацыі звяртаецца да натарыюсаў, а яны без судовага разгляду выносяць рашэнне пра вяртанне аплаты.

«Але калі я хачу абскардзіць натарыяльнае рашэнне, для гэтага трэба звяртацца ўжо не да натарыюсаў, а толькі ў суд. А чаму? А калі я не давяраю нашым судам, ды ў мяне няма грошай плаціць судовую пошліну за разгляд скаргі? Як так, што старшыня СТ можа проста напісаць ліст натарыюсу, і мяне без аніякіх праверак, і нават не выслухаўшы маіх аргументаў, прызнаюць вінаватай у запазычанасцях, а я павінна займацца судовай валакітай?» — пытае Ніна Багінская.

Чаму кіраўніцтва абодвух СТ так няўмольна патрабуе ад жанчыны вялікіх для беларускай пенсіянеркі грошай — Ніна Багінская дакладна не ведае: «Можа таму, што ім не спадабалася, што на агульных сходах я прапаноўвала распусціць кіраўніцтва, якое траціць вялікія грошы няведама куды, і кіраваць талакой, як спрадвечна было на нашых землях. А можа проста адчуваюць сябе мясцовымі начальнікамі і такім чынам паказваюць сваю ўладу».

Нягледзячы на тое, што ўчасткі апісаныя, Ніна Багінская працягвае туды ездзіць і кажа, што не збіраецца іх аддаваць — маўляў, буду бараніць як магу.

# Клеці — знішчыць, курэй — выселіць!

Зінаіда ЦІМОШАК

**Слуцкія ваенныя пенсіянеры, іх жонкі і ўдовы спрабуюць выратаваць свае клеці ад знішчэння.**

На днях на дзвярах клецяў па вуліцы Гагарына былі размешчаны аб'явы з просьбай да 1 чэрвеня 2016 года вызваліць іх з-за ліквідацыі будынкаў. Патрэбна вынесці не толькі банкі з гуркамі, бульбу ды ровары, але за лічаныя дні кудысьці выселіць курэй.

Дамы №№ 22–28 на вуліцы Гагарына на ўскраіне Слуцка некалі належалі воінскай часці. Да гэтага часу мікраён носіць назву «12-ы ваенны гарадок». Першапачаткова 4-павярховыя дамы, пабудаваныя яшчэ ў 1961 годзе, выдзяляліся сем'ям вайскоўцаў пад часовае жыллё. У якасці кампенсацыі адсутнасці гарачай вады і падвальных памяшканняў насельнікам дома ўручылі ключы ад падсобных памяшканняў — клецяў побач з дамамі. Каб сем'ям ваенных жылося яшчэ весялей, і яны не сумавалі па камунальных выгодах цэнтра горада, далі зямлю пад агароды. Жыхары абжываліся, павыкопвалі ўнутры клецяў паграбкі, абсталявалі памяшканні ўсім неабходным для захавання дроў, агародніны, ровараў і г.д.

Пасля вываду ракетнай часткі на тэрыторыю Расіі ў 1996 годзе жылыя дамы былі перададзены на баланс ЖКГ горада. А клеці засталіся на балансе камунальна-эксплуатацыйнай часткі ўзброеных сіл (КЭЧ УС), бо слуцкія камунальнікі ад іх адмовіліся.

Зінаіда Пятроўская, жонка былога механіка Слуцкай КЭЧ, засялілася ў дом №28 яшчэ ў 1982 годзе. У клеці выкапалі паграбок, абсталявалі ўсім неабходным.

«Вы паглядзіце, якая тут добротная кладка, — жанчына падводзіць да сцяны. — У некаторых кватэрах сцены горшыя. Ніякія яны не аварыйныя».

Жанчына лічыць, што камусьці спатрэбілася месца пад забудову, і гэты «нехта» прыспешвае падзеі. Апошнім часам пачалі з'яўляцца падазроныя асобы, якія разбураюць бетонныя перакрыцці паміж першым і другім паверхамі, пашкоджваюць дзверы.



«29 мая некалькі п'янаватых мужчын пашкодзілі мае дзверы і спрабавалі разбурыць бетоннае перакрыцце жалезнымі ламамі, — расказвае пенсіянерка. — Выклікалі міліцыю. Гэта ўжо не першы выпадак. Нават міліцыянты сказалі, што мы перайшлі некаму дарогу».

Жыхарам вельмі не падабаецца таямнічая забудова, якая з'явілася непадалёк ад клецяў за іх дамамі. Па сведчаннях жыхароў, каля дома знік плот, знішчана вялікая колькасць дрэў.

Дарэчы, пашпарта будаўнічага аб'екта вакол пляцоўкі я так і не знайшла. Каля будоўлі — некалькі маладых мужчын у рабочай вопратцы. Адзін з іх на пытанне жыхароў пра будаўнічы аб'ект і яго пашпарт літаральна зняў штаны і паказаў нам голую дупу.

Раісе Лоскутавай 85 гадоў. Працоўная дзейнасць пачалася і скончылася ў воінскай часці. Была замужам за лётчыкам. «Не ўяўляю сваё жыццё без маіх курэй, падвалу, агуркоў. Мы тут усе небагатыя, і нам так патрэбныя клеці», — кажа яна.

Аляксандр Міхневіч, былы старшы прапаршчык, лічыць, што тут мае месца звычайны захоп зямлі. «У гэтых дамах без гарачай вады жывуць, у асноўным, ветэраны — удовы, ваенныя інваліды. З 1961 года ў дамах не было ніводнага капітальнага рамонту. У некаторых сценах такія шчыліны, што можна руку засунуць. І чамусьці не лічаць іх аварыйнымі. У некаторых людзей да гэтага часу ў кватэрах стаяць «цітаны», якія грэюцца дровамі. І куды яны цяпер падзенуцца з гэтымі дровамі?» — гаворыць Аляксандр.

Калектыўны зварот у райвыканкам з просьбай пакінуць людзям клеці для карыстання падпісалі каля 80 чалавек.

Райвыканкам у адказе спасылаецца на рашэнне Бабруйскага ЭУ УС аб ліквідацыі клецяў. Намачальніка Бабруйскага ЭУ УС, у сваю чаргу, спасылаецца на загад міністра абароны аб ліквідацыі непатрэбнай спадчыны.

Супрацоўнікі Бабруйскага эксплуатацыйнага ўпраўлення Узброеных Сіл і не супраць пайсці насустрач людзям і падараваць гэтую спадчыну Слуцкаму райвыканкаму.

Пакуль што ваенныя пенсіянеры грукаюць ва ўсе дзверы райвыканкама і пішуць чарговыя калектыўныя звароты ў Слуцкі райвыканкам, у Бабруйск, у Мінскі аблвыканкам з надзеяй быць пачутымі дзяржавай.

# Хто пераможа: урад,

Яўген КОЛБ

**Ужо не першы месяц французы пад уплывам прафсаюзаў пратэстуюць супраць паправак у працоўны кодэкс. Закон Эль-Камры (ад імя міністра працы ва ўрадзе Мануэля Вальса), які ёсць крокам па далейшым дэрэгуляванні працоўных адносін, можа стаць прычынай маштабнай агульнанацыянальнай забастоўкі. Дык што так разʼюшыла французаў?**

## Закон Эль-Камры

Незадаволенасць французаў большасць СМІ звязваюць з трыма аспектамі паправак у працоўны кодэкс.

Першы тычыцца працягласці працоўнага часу. Законапраект захоўвае 35-гадзінны працоўны тыдзень, уведзены сацыялістамі ў 1998–2000 гадах, але дае магчымасць прадпрымальнікам змяняць працягласць працоўнага дня ў залежнасці ад патрэб прадпрыемства. Пры гэтым захоўваюцца нязменнымі дзеючыя цяпер максімальная працягласць працоўнага дня і працоўнага тыдня. Законапраект таксама захоўвае існуючы памер аплаты звышурочнага працоўнага часу, да якога прадпрыемству дазвалялася звяртацца пасля пераходу да 35-гадзіннага рабочага тыдня. Аплата першых васьмі гадзін на 25% вышэй звычайнай, усіх наступных — на 50%.

Аднак законапраект прадугледжвае магчымасць аплаты звышурочных гадзін толькі на 10% вышэй, чым звычайна, у тых выпадках, калі на прадпрыемстве заключана адпаведнае пагадненне паміж прафсаюзамі і адміністрацыяй.

Важна і тое, што падлік дадатковых гадзін і, адпаведна, іх аплата можа ажыццяўляцца на аснове не аднаго года, а трох гадоў. Але ў цэлым заканадаўства аб працягласці працоўнага часу і аплаты звышурочных гадзін практычна не змянілася ў параўнанні з законам 2008 года, прынятым правым кабінетам Франсуа Фіёна.

Другім важным аспектам законапраекта зʼяўляецца спрашчэнне працэдуры звальненняў. Па-першае, стала больш выразным вызначэнне «звальнення паводле эканамічных прычын», у той час як цяперашняе дае суддзям больш магчымасцяў прызнаць звальненне незаконным у выпадку звароту звольненага ў суд.

Па-другое, пашыраюцца ўмовы, якія даюць адміністрацыі права на звальненне. Да іх адносіцца: скарачэнне колькасці заказаў і абʼёму здзелак на працягу некалькіх кварталаў, моцнае пагаршэнне фінансавага стану прадпрыемства, тэхналагічная і арганізацыйная перабудова прадпрыемства, неабходная для павышэння канкурэнтаздольнасці, а таксама намер прадпрыемства заваяваць новыя рынкі.

У той жа час, у выпадку «штучнага стварэння эканамічных цяжкасцяў» адміністрацыяй прадпрыемства звальненні забараняюцца.

Але нават наяўнасць рэальных праблем не азначае аўтаматычнага скарачэння персаналу. Законапраект уводзіць для адміністрацыі магчымасць, якая раней адсутнічала ў працоўным заканадаўстве, прапаноўваць работніку новы працоўны дагавор з менш выгадным графікам і больш нізкім заробкам, але з захаваннем працоўнага месца. Работнікі, якая адпрэчылі прапанаваныя ўмовы, звальняюцца, а іх магчымасці абскардзіць звальненне ў судзе абмяжоўваюцца.

Палёгку працэдуры звальненняў нельга назваць нечаканасцю для насельніцтва, паколькі гэтыя правілы ўтрымліваліся ў агульнанацыянальным пагадненні, заключаным у 2013 годзе паміж прафсаюзамі і прадпрымальнікамі. Законапраект Эль-Камры толькі ўнёс у яго невялікія карэкціроўкі і надаў ім сілу закона.



Прафсаюзы і левыя актывісты на дэманстрацыі супраць закона Эль-Камры. 10 мая 2016 года

Сапраўдным навінкай стаў трэці аспект, які шмат якімі французскімі экспертамі называецца асновай філасофіі закона Эль-Камры. Гэта — змены ў сістэме дамоваў паміж прафсаюзамі і прадпрымальнікамі.

Перш за ўсё — кардынальна змяняецца іерархія калектыўных пагадненняў. Сёння ў Францыі ўмовы працы і памер зарплаты вызначаюць галіновыя пагадненні, якія распаўсюджваюцца на ўсіх работнікаў дадзенай прафесіі. На практыцы прадпрыемствы могуць трохі адступаць ад іх умоў, але сурʼёзныя адхіленні ад дасягнутых дамоўленасцей недапушчальныя.

Законапраект Эль-Камры ўсталёўвае, што з гэтага часу працягласць працоўнага часу і парадак звальненняў будзе вызначаць пагадненне на ўзроўні прадпрыемства. Пасля яго заключэння галіновыя прафсаюзы могуць выказаць рэкамендацыі, якія не маюць абавязковага характару для прадпрыемства. Такім чынам, уводзіцца дэцэнтралізацыя калектыўных пагадненняў, якая дазваляе лепш улічваць спецыфіку кожнага прадпрыемства.

Адначасова змяняюцца правілы зацвярджэння пагадненняў на прадпрыемствах. Законапраект устанаўлівае, што гэтыя пагадненні зацвярджаюць прафсаюзы, якія прадстаўляюць як мінімум 50% работнікаў замест 30% па дзейсным заканадаўстве. Але калі яны блакуюць пагадненне, за якое выступае большасць работнікаў, прафсаюзы, што прадстаўляюць як мінімум 30% персаналу, маюць права ініцыяваць правядзенне рэферэндуму на прадпрыемстве для зацвярджэння заключанага пагаднення. Тым самым абмяжоўваецца магчымасць вядучых прафсаюзных цэнтраў уплываць на жыццё прадпрыемстваў.

## Французы супраць прагрэсу?

Паводле афіцыйнай версіі ўрада, закон Эль-Камры накіраваны на тое, каб «абараніць асоб наёмнай працы, стымуляваць наём і пашырыць поле манеўру для перамоў на прадпрыемстве».

Акрамя таго, акцэнт, зроблены на барацьбе з беспрацоўем, якое бесперапынна расце з 2012 года, не зʼяўляецца толькі палітычнай хітрасцю ўрада, закліканай спрасціць прыняцце закона. Улады краіны разлічваюць, што запланаваныя дэрэгламентацыі ў сферы працоўных адносін падштурхнуць прадпрыемствы да павышэння колькасці персаналу.

Тым не менш, вопыт Італіі, Іспаніі і Германіі, дзе ўжо праведзены падобныя рэформы, да цяперашняга часу не дае пераканаўчых доказаў прамой сувязі паміж пераўтварэннямі і павелічэннем найму. Значна больш выразна прасочваецца сувязь паміж законапраектам і інтарэсамі прадпрыемстваў, якія атрымліваюць больш магчымасцяў для правядзення мадэрнізацыі і адаптацыі да ваганняў канʼюнктуры.

# Развязка будзе толькі наступнай вясной

Алег НОВІКАЎ

**Парыжскі прафсаюзны актывіст і журналіст Аляксандр Чукаеў распавядае пра падрабязнасці цяперашняй канфрантацыі паміж прафсаюзамі і ўладамі Францыі.**

***— Ці моцна ўплываюць акцыі пратэсту на паўсядзённае жыццё французаў?***

— Усё як заўсёды, акрамя, хіба, спарадычнага дэфіцыту паліва на запраўках. У такіх выпадках сапраўды ўзнікаюць доўгія чэргі. На мінулым тыдні мне спатрэбілася амаль гадзіна, каб заправіць машыну. Праўда, за перабоі на АЗС адказныя не толькі забастоўшчыкі, якія блакуюць перапрацоўчыя заводы, але і простыя аўтааматары. Ажыятаж вакол бензіну спрavакаваў закупы пра запас. У сярэднім у краіне яго набываюць сёння на 10–12 працэнтаў больш, чым да таго часу, калі пачалася актыўная фаза пратэстаў супраць паправак міністра працы Эль-Камры ў працоўны кодэкс.

Але, нягледзячы на нязручнасці, сімпатыі большасці французаў на баку пратэстоўцаў, хаця мала хто дакладна разбіраецца ў такой складанай частцы працоўнага права, як прынцып налічэння заробку за звышурочныя. Хутчэй, людзям не падабаецца, як улада намагалася праштурхнуць гэты законапраект. Яго пачалі лабіраваць пасля таго, як у краіне з-за лістападаўскіх тэрактаў было абвешчана надзвычайнае становішча, якое забараняе публічныя маніфестацыі, у тым ліку прафсаюзныя. Таксама быў парушаны традыцыйны механізм узгаднення падобных законаў з прафцэнтрамі. Высвятленню такога кшталту законапраектаў на разгляд парламенту звычайна папярэднічаюць доўгія кансультацыі. На гэты раз урад наўпрост ігнараваў прафсаюзы. Як следства, апошнім не цяжка мабілізаваць людзей, спекулюючы на тым, што законапраект Эль-Камры — гэта разведка. Калі грамадства пагодзіцца на падобны заканадаўчы працэс, урад, маўляў, запусціць непапулярную пенсійную рэформу і дасць адмашку на перагляд закону пра адпачынкі.

***— На памяці яшчэ засталіся буйныя забастоўкі 1995-га, моладзевыя пратэсты 2007-га супраць так званага кантракту першага найму і іншыя сацыяльныя пратэсты ў Францыі. Аднак усе яны не ператвараліся ў такія жорсткія разборкі паміж паліцыяй і маніфестантамі. У чым прычыны эскалацыі гвалту?***

— Зараз ужо цяжка і, напэўна, позна высвятляць, хто першы пачаў. Аднак відавочна, што тут сваю ролю згуляла пашырэнне кампетэнцыі сілавікоў пасля восеньскіх тэрактаў. Тады паліцыю абвінавацілі ў адсутнасці рашучасці. У выніку цяпер паліцыя і спецназ сталі больш агрэсіўнымі. Яны пачалі выкарыстоўваць новыя спецсродкі накшталт шумавых гранат. Узнікла практыка працы ў натоўпе пад выглядам цывільных, якія кампраметуюць пратэсты, разбіваюць вітрыны, арганізуюць бойкі і г.д. У выніку колькасць ахвяр паліцэйскага гвалту вырасла. Спачатку падчас адной з дэманстрацый кінутая паліцыяй граната разбіла пратэстоўцу галаву. Пасля паліцэйскі ўдарыў жанчыну, якая выпадкова стала сведкай акцыі. Недзе паліцэйскія выпадкова пабілі школьніка. Такія эпізоды абураюць грамадства. Маладыя ўдзельнікі прафсаюзных акцый таксама маральна гатовыя да супраціву. У выніку спіраль напружання раскруцілася да таго, што прэмʼер называе прафсаюзы «сацыяльнымі тэрарыстамі».

***— У наступным годзе ў Францыі адбудуцца прэзідэнцкія выбары. Наколькі цяперашні канфлікт можна паўплываць на іх выніку?***

— Усё яшчэ зменіцца. Пакуль падаецца, што канфлікт вакол законапраекту Эль-Камры фактычна ставіць крыж на шансах Аланда пераабрацца на другі тэрмін. Зараз 82 працэнтаў французаў выступаюць за яго адстаўку. Яго логіка ўчынкаў

# прафсаюзы ці Францыя?

Не выпадкова законапраект у яго першапачатковай версіі быў ухвалены кіраўніком французскага буйнога бізнесу П'ерам Гатазам і экспертамі МВФ. Зрэшты, павышэнне канкурэнтаздольнасці прадпрыемстваў, дасягнутае пры дапамозе законапраекта, цалкам можа прывесці да стварэння новых працоўных месцаў.

Такім чынам, законапраект Эль-Камры адпавядае патрэбам нацыянальнай эканомікі і з'яўляецца крокам па рэфармаванні французскай сацыяльнай мадэлі.

Тым не менш, нягледзячы на праведзеную ўрадам тлумачальную працу, папраўкі ў працоўны кодэкс з моманту апублікавання 17 лютага выклікалі моцную незадаволенасць насельніцтва. Згодна з апытаннямі сакавіка-мая 2016 года, ад 70% да 74% французаў выступаюць супраць рэфармавання працоўнага заканадаўства.

З 9 сакавіка пачаліся маніфестацыі пратэсту, якія працягваюцца па гэты дзень. Супраць закона Эль-Камры выступілі прафсаюзы, студэнцкія арганізацыі, партыі левага лагера, і нават левае крыло кіруючай Французскай сацыялістычнай партыі (ФСП).

Урад унёс шэраг змяненняў у першапачатковы варыянт, але галоўныя палажэнні законапраекта засталіся нязменнымі. Менавіта таму дэпутаты ФСП з левага крыла партыі заявілі, што не будуць галасаваць за прыняцце законапраекта. Адсутнасць упэўненасці, што закон будзе прыняты шляхам звычайнай парламенцкай працэдуры, вымусіла Мануэля Вальса выкарыстоўваць артыкул 49-3 канстытуцыі краіны. Яна дазваляе ўраду звязваць законапраект з пытаннем аб даверы кабінету. Вылучаны правымі сіламі вотум недаверу атрымаў 246 галасоў пры неабходных 288, што зрабіла закон Эль-Камры прынятым у першым чытанні.

Нягледзячы на тое, што ўрад Вальса раней ужо выкарыстоўваў артыкул 49-3, на гэты раз рашэнне кіраўніка кабінета было ўспрынятае як імкненне ўлады навязаць непапулярны закон з парушэннем дэмакратычных прынцыпаў. Не выпадкова 75% французаў асудзілі выкарыстанне артыкула 49-3.

## Д'ябал у дробязях

Адной з прычын руху пратэсту сапраўды з'яўляецца законапраект Эль-Камры. Але прычыны незадаволенасці не зусім тыя, што звычайна называюцца ў большасці СМІ.

Нельга казаць, што ў выпадку прыняцця законапраекта французам давядзецца працаваць больш. Праведзеныя ў красавіку-маі апытанні паказваюць, што больш за палову жыхароў краіны падтрымліваюць магчымасць вар'іравання працягласці працоўнага тыдня ў межах ад 35 да 39 гадзін, а больш за 40% нават выступаюць за адмену 35-гадзіннага рабочага тыдня.

Палёгка працэдуры звальненняў, безумоўна, выклікае незадаволенасць, асабліва ўлічваючы высокі ўзровень беспрацоўя ў краіне. Але пагадненне 2013 года, якое фактычна вызначала новыя правілы звальненняў, было падпісана прафсаюзамі і не выклікала процідзеяння з боку насельніцтва.

Галоўнай прычынай незадаволенасці законапраектам з'яўляецца, хутчэй за ўсё, менавіта змена іерархіі калектыўных пагадненняў. Праціўнікі рэформы асцерагаюцца, што ўстанаўленне першынства пагаднення на прадпрыемстве, дзе працоўным складаней супрацьстаяць ціску прадпрымальнікаў, над галіновым пагадненнем прывядзе да таго, што аплата звышурочнага часу толькі на 10% вышэй звычайнага стане нормай. Іншымі словамі, французы будуць атрымліваць адчувальна менш грошай за звышурочную працу.

Больш за тое, трывогу насельніцтва выклікаюць наступствы распаўсюджвання новай іерархіі пагадненняў на іншыя бакі жыцця прадпрыемства, перш за ўсё — на ўсталяванне памеру зарплаты. Не выпадкова галоўная барацьба разгарнулася вакол арт. 2 законапраекта, у якім гаворка ідзе пра змены ў галіне калектыўных пагадненняў.

Такім чынам, насельніцтва выступае не столькі супраць гэтага законапраекта, колькі супраць перагляду аднаго з базавых прынцыпаў французскай сацыяльнай мадэлі.

Можна спрачацца пра тое, наколькі апраўданым з'яўляецца імкненне захаваць сацыяльную мадэль, якая відавочна тармозіць эканамічнае развіццё і пагаршае стан фінансавай сістэмы краіны. У сувязі з гэтым яшчэ з 1980-х гадоў правыя палітыкі і блізкія да правых сілаў публіцысты кажуць пра кансерватызм і эгаізм французаў, якія адмаўляюць наспелыя змены дзеля захавання стабільнасці. А гэта стабільнасць у канчатковым рахунку вядзе толькі да разрастання існуючых праблем і ўзмацнення іх цяжару для новага пакалення.

Але гэта асаблівасць псіхалогіі французаў, якія даражаць сваімі сацыяльнымі заваёвамі. Характэрна, што з узроставых катэгорый найбольш моцную незадаволенасць закон Эль-Камры выклікаў у моладзі (79% у красавіку 2016 года), якая, здавалася б, павінна быць галоўнай прыхільніцай перамен.

## Справа не ў законе, а ў прэзідэнце

Але незадаволенасць рэформай працоўных адносін не з'яўляецца адзінай прычынай цяперашняга сацыяльнага руху. Другой і, магчыма, больш важнай прычынай з'яўляецца незадаволенасць французаў сацыяльна-эканамічнай палітыкай прэзідэнта Франсуа Аланда.

Распачаўшы ў 2012 годзе шэраг дзеянняў у левым духу, ён з 2013 года для вырашэння эканамічных праблем праводзіць курс, які сам называе сацыял-дэмакратычным, але які ў рэальнасці з'яўляецца сацыял-ліберальным і адрозніваецца ад палітыкі Нікаля Сарказі толькі большай сацыяльнай афарбаванасцю.

Для барацьбы з дэфіцытам дзяржаўнага бюджэту ўрад паслядоўна скарачае дзяржаўныя выдаткі. З мэтай ажыўлення эканамічнага росту прыняў шэраг рашэнняў у інтарэсах прадпрымальнікаў замест выкарыстання характэрнага для левых сіл метаду павышэння пакупніцкай здольнасці насельніцтва.

Варта адзначыць, што такі курс не супярэчыць перадвыбарным абяцанням Франсуа Аланда, але ідзе насуперак галоўным ідэалагічным устаноўкам ФСП. У выніку зноў абвастрылася супярэчнасць паміж абвешчанымі ідэаламі і прагматычнай палітыкай, з якой сацыялісты пастаянна сутыкаліся падчас знаходжання ва ўладзе.

Той факт, што прэзідэнт-сацыяліст не толькі ідзе насустрач інтарэсам прыватнага бізнесу, але і робіць замах на сацыяльныя заваёвы працоўных, выклікаў моцную незадаволенасць сярод левага электарату. Аднachасова адсутнасць прыкметнага эканамічнага эфекту ад праведзеных рэформаў садзейнічала ўзмацненню сумневаў сярод насельніцтва ў цэлым у правільнасці абранага курсу.

На сённяшні момант каля 80% французаў лічаць неэфектыўнай эканамічную палітыку прэзідэнта і сумняваюцца ў здольнасці Франсуа Аланда вырашыць галоўныя праблемы краіны. Пачынаючы з 2013 года з боку левага лагера пастаянна вылучаецца патрабаванне да прэзідэнта аб павароце налева сацыяльна-эканамічнага курсу.

Але Аланд праявіў цвёрдасць і заявіў, што пойдзе да канца. Такога ад яго ніхто не чакаў, асабліва з улікам таго, што за прэзідэнтам замацаваўся імідж палітыка, які імкнецца пазбягаць канфліктаў. Такім чынам барацьба супраць закона Эль-Камры стала зручнай нагодай для ўсіх незадаволеных палітыкай прэзідэнта адкрыта выказаць сваю нязгоду. А таксама спосабам падштурхнуць уладу да змены курсу.

## За крок ад калапсу?

З сярэдзіны мая рух пратэсту ўступіў у новую фазу, калі да маніфестацый дадаліся страйкі з патрабаваннем адмовіцца ад прыняцця закона Эль-Камры. На сённяшні момант іх маштаб набліжаецца да ўзроўню, які пагражае паралізацыяй Францыі.

Насельніцтва выразна ўсведамляе гэтую пагрозу: 69% французаў выступаюць за адкліканне закона, каб пазбегнуць сур'ёзных парушэнняў у жыцці краіны. І нават у гэтых умовах Франсуа Аланд не мае намеру ісці на саступкі і заяўляе пра тое, што закон будзе прыняты. Больш за тое, улада разгарнула ў СМІ барацьбу з прафсаюзам «Усеагульная канфедэрацыя працы», які стаіць практычна за ўсімі забастоўкамі.

Такім чынам, цяперашні сацыяльны канфлікт у Францыі разгортваецца па звыклым для краіны сцэнары барацьбы насельніцтва супраць неабходных, але непапулярных сацыяльных рэформаў. Незвычайнасць заключаецца толькі ў тым, што ўпершыню з такім рухам пратэсту давялося сутыкнуцца сацыялістам, паколькі раней падобныя рухі выклікаліся дзеяннямі правых сіл. На сённяшні дзень можна выбудоўваць розныя прагнозы далейшага развіцця падзей, але, як паказвае вопыт Францыі, з упэўненасцю прадказаць зыход узніклага канфлікту вельмі складана.



Фота www.liberation.fr

**Зрыў Еўра–2016 будзе цяжкім ударам па прэстыжы Аланда. Таму ўлады да 10 чэрвеня паспрабуюць неяк дамовіцца з прафсаюзамі**

супярэчыць не толькі аксіёмам палітычных тэхналогій, паводле якіх напярэдадні выбараў электарату трэба кідаць пернік, а непапулярныя рэформы лепш праводзіць задоўга да выбараў. Палітыка Аланда дыскрэдытуе сацыялістаў на месцах, парушае іх адзінства, дэмаралізуе. Нават фракцыя сацыялістаў у парламенце асуджае скандальны законапраект.

Магчыма, Аланд спадзяецца на тое, што трапіць у другі тур разам з Марын Ле Пэн. Усе сацыялагічныя апытанні сведчаць, што большасць французаў у выпадку выхаду Ле Пэн у фінал гатовыя галасаваць па прынцыпу — хто заўгодна, толькі не яна. Між тым на фоне падзення рэйтынгу Аланда ўзнік запыт на новых левых кандыдатаў. Вярнуўся ў вялікую палітыку Аліўе Безансон, лідар пострацкісцкай Новай антыкапіталістычнай партыі (NPA), пра якога на нейкі час забылі. Усё часцей запрашаюць на вядучыя каналы Жан-Люка Меланшона з Фронту Левых. Аднак ці захаваецца да гэтых палітыкаў інтарэс да вясны 2017-га, вялікае пытанне.

*— Якая сітуацыя на правым флангу? Як лідары правых ставяцца да прафсаюзных пратэстаў?*

— Будучы ў апазіцыі, правыя, натуральна, не могуць падтрымліваць кабінет сацыялістаў. Аднак іх пазіцыя дастаткова супярэчлівая, паколькі Нікаля Сарказі — лідар вядучай правай партыі «Рэспубліканцы», падчас прэзідэнцтва таксама праводзіў антысацыяльны курс — скарачаў падаткі для заможных і г.д. Сёння ён кажа, што гэта была вымушаная палітыка, у той час як Аланд, маўляў, свядома скарачае сацыяльныя льготы. Аднак гэта не прыносіць Сарказі асаблівых дывідэндаў. Каля 70 працэнтаў французаў не жадаюць вяртання Сарказі ў Елісейскі палац. Што тычыцца Марын Ле Пэн, то на словах яна таксама на баку прафсаюзаў. Нацыянальны фронт лічыць, што Аланд здрадзіў нацыянальным інтарэсам Францыі, дзейнічае паводле інструкцый Ангелы Меркель і Брусэля.

*— Ужо 10 чэрвеня ў Францыі стартуе чэмпіянат Еўропы па футболу. І на гэты ж дзень прафсаюзы прызначылі агульнанацыянальны страйк. Ці гэта значыцца, што турнір пад пагрозай?*

— Калі заяўлены агульны страйк сапраўды адбудзецца, то Еўра–2016 давядзецца скасаваць. Тым больш, што прафсаюзы гатовыя праводзіць страйк нават парушаючы адпаведны закон. Апошні патрабуе, каб прыкладна трацiна рабочых у гэты дзень усё ж працавала для падтрымання функцыянавання інфраструктуры. Прафсаюзы кажуць, што ніводны цягнік 10 чэрвеня не выйдзе на трасу. Аднак я сумняваюся, што нам пагражае такі экстрым. Зрыў чэмпіянату будзе сапраўдным ударам па прэстыжы Аланда, прычым у глабальным маштабе. Думаю, да 10 чэрвеня ўлады паспрабуюць неяк дамовіцца з прафсаюзамі. Праўда, гэта не значыць, што ўсё адразу супакоіцца. Цяперашнія пратэсты па часе ўпісаліся ў старт выбарчай прэзідэнцкай кампаніі. Таму развязка будзе толькі наступнай вясной.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УЗБЕКІСТАН. Мільён рабоў дзяржавы

У дакладзе «Глабальны індэкс рабства 2016», складзеным няўрадавым фондам «Walk Free Foundation» пры дапамозе міжнароднай навукова-даследчай кампаніі «Gallup», Узбекістан уключаны ў пяцёрку краін з самай вялікай колькасцю рабоў. Краіна пад кіраўніцтвам прэзідэнта Карымава, акрамя таго, знаходзіцца на другім пасля Паўночнай Карэі месцы па суадносінах людзей, якія знаходзяцца ў сучасных формах рабства, і вольных грамадзян краіны. Статус рабаўладальніцкай дзяржавы Узбекістан заслужыў за тое, што ўрад штогод прымушае больш за мільён сваіх грамадзян да выканання работ, звязаных з вырошчваннем і зборам бавоўны. Усяго, паводле ацэнак фонду «Walk Free Foundation», да той ці іншай формы сучаснага рабства па ўсім свеце схіляюцца 45,8 мільёна чалавек у 167 краінах свету. Краінамі з найменшай колькасцю рабоў прызнаныя Люксембург, Ірландыя, Нарвегія, Данія, Швейцарыя, Аўстрыя. Што тычыцца Беларусі, то, паводле дакладу, у нас у той ці іншай форме прымусова і без заробку працуюць каля 44 тысяч чалавек. Гэта лічба дазваляе Беларусі займаць 25-е месца сярод 167 краінаў.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### КІТАЙ. Абвяшчаецца вайна «Disney»

У Шанхаі адкрыўся дзіцячы забаўляльны парк, пабудаваны кітайскай кампаніяй «Wanda». Гэта, падавалася, бытавая з'ява разглядаецца ў сусветнай прэсе як выклік, які кітайцы кінулі кампаніі «Disney» — лідару на рынку дзіцячых забаў. Першай пляцоўкай для вайны стане Шанхай, дзе «Disney» вось-вось таксама адкрые забаўляльны парк. У адказ на гэта «Wanda» плануе пабудаваць цэлых 10 паркаў па ўсім Кітаі і пачне рухацца на знешнія рынкі. Эксперты лічаць, што «Disney» не здолее супрацьстаяць агрэсіі «Wanda» як мінімум у Кітаі — з-за росту міжнароднай напружанасці. Кітай, які разглядае ЗША як патэнцыйнага праціўніка, будзе спрабаваць паставіць бар'ер на шляху інтэрвенцыі амерыканскай масавай культуры. Нездарма на адкрыцці згаданага парку прысутнічаў адзін з функцыянераў Кампартыі, які заклікаў кітайцаў змагацца з Мікі-Маўсам.

**Паводле партугальскай прэсы**

### ЛАТВІЯ. Неграмадзян хутка не будзе

Цалкам магчыма, што на сотую гадавіну абвяшчэння незалежнасці Латвіі ў 2018 годзе ў краіне знікне такі сумнярэчлівы інстытут, як «неграмадзяне». Маюцца на ўвазе тыя жыхары, якія адмовіліся праходзіць натуралізацыю і атрымліваць пашпарт грамадзян Латвіі. Такая з'ява, як «неграмадзянэ», даўно крытыкавалася на Захадзе, і вось нарэшце з'явіўся праект, які закліканы спрасціць іх натуралізацыю. Праект прапанавалі на пасяджэнні так званага «Савета стагоддзя» — аргкамітэта па падрыхтоўцы 100-й гадавіны незалежнасці. У яго ўваходзяць цяперашні прэзідэнт краіны Раймонд Веёніс і былыя прэзідэнты. Сярод варыянтаў разглядаюцца: аўтаматычнае прадастаўленне грамадзянства тым, хто нарадзіўся ў сем'ях «неграмадзян», магчымасць даць права «неграмадзянам» прымаць удзел у галасаванні на муніцыпальных выбарах, і нават поўная ліквідацыя такога статусу і прадастаўленне грамадзянства ўсім.

**Паводле латвійскай прэсы**

### АБХАЗІЯ. Каманда краіны — чэмпіён свету па фуболе!

Праўда, чэмпіёнам свету па футболе нацыянальная зборная Абхазіі стала толькі па версіі Канфедэрацыі незалежных футбольных асацыяцый (ConIFA), якая аб'ядноўвае футбольныя арганізацыі прыкладна 36 непрызнаных дзяржаў і рэгіёнаў. Нягледзячы на тое, што ConIFA — экзатычная структура, яна з 2014 года праводзіць свой Кубак свету. Яго першым уладальнікам стала каманда графства Ніцца, якое фармальна ліквідавалі яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя падчас аб'яднання Італіі. Другі розыгрыш Кубку свету ад ConIFA прайшоў не так даўно ў Абхазіі, зборная якой і выйграла турнір, разграміўшы ў фінале Заходнюю Арменію. Аднак для абхазскіх фанатаў значна больш прыемна аказалася не золата, а нечаканыя навіны з Жэневы, дзе засядае Міжнародная федэрацыя па футболе (FIFA). Практычна напярэдадні фіналу стала вядома, што чыноўнікі FIFA вырашылі прызнаць футбольную федэрацыю Косава, суверэнітэт якога дасюль не мае агульнага прызнання (незалежнасць Косава ад Сербіі прызналі 108 дзяржаў (56%) з 193 чальцоў ААН). У Сухумі лічаць, што сяброўства ў FIFA таксама не за гарамі. Як прыклад яны прыводзяць факт пераможу з FIFA наконт правядзення пад эгідай гэтай структуры міжнароднага таварыскага матчу з удзелам абхазскай зборнай.

**Паводле грузінскай прэсы**




Фота www.rus.azattyq.org

# Апошнія дні Назарбаева?

Алег НОВІКАЎ

**Хваля масавых несанкцыянаваных мітынгаў у Казахстане спарадзіла ў асяродку экспертаў моду на некралогі рэжыму Назарбаева. Што будзе, калі сапраўды над казахскім стэпам пачне гуляць вецер пераменаў?**

Нягледзячы на тое, што 21 мая казахстанскія сілавікі спрацавалі вельмі аператыўна — пратэсты супраць закону пра арэнду зямлі для іншаземцаў былі разагнаныя на лічаныя хвіліны, — большасць экспертаў чакаюць працягу «казахскай турбулентнасці».

У якасці аргументаў эксперты спасылаюцца на шырокую геаграфію выступаў і імклівае ўцягванне ў пратэстны рух вялікай колькасці людзей з абсалютна розных сацыяльна-дэмаграфічных груп.

«Гэта ўжо не сярэдні клас і ліберальная інтэлігенцыя, а малазабяспечаныя ўскраіны. Жыхары сярэдніх гарадоў і пасёлкаў, рабочыя і бюджэтнікі. Гэта старт рэвалюцыйнага працэсу», — піша ўкраінскае выданне Politic.org.

Што будзе, калі казахскім сілавікам у наступны раз ужо не ўдасца стрымаць той самы рэвалюцыйны працэс? Брытанскае выданне «Financial Times» прапануе чатыры сцэнары. Першы: улада пераходзіць да чальцоў сям'і Назарбаева, як здарылася ў 2003 годзе ў Азербайджане, дзе Гейдара Аліева змяніў яго сын Ільхам. Прыкладам другога сцэнару з'яўляецца Расія, дзе ў 1999 годзе слабы Барыс Ельцын публічна прадставіў свайго пераемніка — выхадца з КДБ Уладзіміра Пуціна, які, як і меркавалася, праз нейкі час атрымаў перамогу на выбарах. Варыянт трэці — туркменскі: пасля раптоўнай смерці Сапармурата Ніязава ў снежні 2006 года без якога-небудзь відавочнага плану перадачы ўлады, палітычная эліта краіны дамовілася і вылучыла ў прэзідэнты малавядомага раней Гурбангулы Бердымухамедава. Паводле «Financial Times», найбольш негатыўным стаў бы чацвёрты варыянт: некіраваны хаос, або «ўкраінскі сцэнар».

У выпадку рэалізацыі чацвёртага сцэнару расійская інтэрвенцыя выглядае папросту непазбежнай — з улікам наяўнасці кампактнай рускамоўнай групы насельніцтва на поўначы краіны, сярод якой папулярная ідэя паўтарыць крымскую схему.

«Крэмль не будзе ратаваць рэжым Назарбаева, а абмяжуецца ўвядзеннем сваіх войскаў у нафтаносныя рэгіёны на захадзе Казахстана. Там, магчыма, створаць чарговую «народную рэспубліку». Кантроль Масквы будзе ўсталяваны на рускамоўнай Поўначы і над трыма транспартнымі калідорамі з Кітая. Усе іншыя тэрыторыі краіны пакінуць на Назарбаева і тых, хто з ім да таго часу застанецца», — піша той жа Politic.org.

Дастаткова арыгінальная ідэя агучаная казахскай службай «Радыё Свабода» пра тое, што «расійская інтэрвенцыя» пройдзе пад нагодай аказання Елбасы медычнай дапамогі. У такім выпадку на першым этапе трэба чакаць паведамленняў пра тое, што Назарбаеў сур'ёзна захварэў, аднак, у прынцыпе, можа выконваць свае функцыі. На другім этапе казахскі гарант выпраўляецца ў нейкі маскоўскі шпіталь, адкуль і будзе фармальна дасылаць на радзіму цыркуляры, напісаныя за яго крамлёўскімі клеркамі. Дарэчы, з бальнічнай палаты даўно «кіруе» краінай алжырскі прэзідэнт — і быццам нічога.

Некаторыя лічаць, што мы станем сведкамі новай мадэлі ўлады, якой яшчэ не ведае постсавецкая прастора. Паводле гэтага меркавання, пасля Назарбаева Казахстан чакае «калектыўнае кіраўніцтва».

Інтэрнэт-выданне Politeka лічыць, што кіраўнік казахскай дзяржавы не мае кандыдатаў на сваё месца, таму і ўзнікае ідэя «калектыўнага кіравання» ў выглядзе тандэму: дачка Назарбаева Дарыга плюс адзін з сілавікоў. Магчыма, пул прэтэндэнтаў можа быць пашыраны за кошт прадстаўнікоў мясцовых кланаў, лабістаў геапалітычных гульцоў накшталт Расіі або Кітая. У перспектыве такі варыянт прадугледжвае стварэнне нейкага міжнароднага кансорцыюму па сумесным кіраванні Казахстанам, фасадам для якога можа стаць парламенцкая рэспубліка.

Гледзячы на статыстыку, большасць экспертаў схіляецца да формулы кіраванага Назарбаевым трансферу ўлады, апісанага ў другім сцэнары «Financial Times». Называюцца нават канкрэтныя імёны з атачэння Назарбаева, якім у хуткім часе будзе прапанавана выканаць ролю мясцовага Пуціна. На думку назіральнікаў, новым лідарам можа стаць хтосьці з трыяды: кіраўнік службы нацыянальнай бяспекі Рустам Інаятаў, прэм'ер-міністр Карым Масімаў ці міністр фінансаў Бахыт Султанаў.

Нарэшце, сярод палітычных футуролагаў Казахстана шмат песімістаў. На іх думку, выбух пратэстаў будзе толькі спрыяць кансалідацыі рэжыму, што дазволіць Назарбаеву пралангаваць тэрмін існавання свайго рэжыму. Гэта няцяжка зрабіць у атмасферы апатыі, страху перад уладай і адсутнасці палітычнай культуры супраціву.

«Выклікаць хаос акцыямі накшталт 21 мая ў Казахстане немагчыма. Уладам удалося яшчэ ў папярэднія гады, на фоне падзей у Кыргызстане і Украіне, стварыць у настроях казахаў нейкі «культ стабільнасці», калі насельніцтва разумее: любая кепская стабільнасць лепш дэстабілізацыі», — піша ўкраінскае выданне Korrespondent.net. Сапраўды, у праўладных (чытай, амаль ва ўсіх мясцовых СМІ) разгарнулася хваля нізкапробнай прапаганды ў абарону «статус-кво».

Праўда, нават самыя вялікія скептыкі пагаджаюцца: гэтай вясной у настроях казахаў пачаліся нейкія перамены. Паводле слоў аднаго з экспертаў, усё сведчыць пра тое, што Казахстан на вачах вычэрпвае рэсурс постсавецкай мадэлі развіцця.

# Хто будзе віцэ-прэзідэнтам?

Алег НОВІКАЎ

**Практычна гарантаваўшы сабе перамогу на праймерыз, Хілары Клінтан і Дональд Трамп кінуліся шукаць сваіх кандыдатаў у віцэ-прэзідэнты.**




Фота www.independent.co.uk

Хаця, паводле амерыканскай Канстытуцыі, віцэ-прэзідэнт — другая фігура пасля кіраўніка дзяржавы, як правіла, той выконвае сумныя цырыманіяльныя функцыі. Яго асноўная задача — падстрахоўка: у выпадку непрацаздольнасці або смерці кіраўніка Белага дому VC (так часта называць віцэ-прэзідэнтаў у заакіянскіх СМІ) павінен адразу ж заняць пасаду кіраўніка адміністрацыі, каб уся выканаўчая вертыкаль працягвала працу. Праўда, апошнім часам віцэ-прэзідэнтаў сталі таксама падключаць да міжнародных місій. Можна ўзгадаць Джо Байдэна — цяперашняга віцэ-прэзідэнта, які негалосна лічыцца куратарам Украіны.

Аднак на этапе выбарчай кампаніі постаць кандыдата ў віцэ-прэзідэнты вельмі важная. Фактычна, гэтая асоба дапамагае штабу кандыдата вырашыць значныя тактычныя задачы — напрыклад, прыцягнуць інтарэс нейкай сацыяльнай групы да кандыдата ў прэзідэнты. Класічным прыкладам тут з'яўляецца выбарчая кампанія Джона Кенэдзі, які «падпісаў» у кандыдаты на пасаду віцэ-прэзідэнта тэхасца Ліндана Джонсана і атрымаў патрэбныя для перамогі галасы Поўдня.

Гэты аспект вельмі важны для Дональда Трампа, якому, нягледзячы на фурор сярод прадстаўнікоў правага электарату, трэба шукаць кансенсус з партыйным істэблішментам. Узяўшы ў якасці кандыдата ў віцэ-прэзідэнты аўтарытэтнага рэспубліканца, Трамп можа спадзявацца як мінімум на больш актыўны ўдзел нізавых партструктур у сваёй кампаніі. У сувязі з гэтым адмыслоўцы не выключаюць, што Трамп зробіць выбар на карысць 66-гадовага сенатара Боба Коркера з Тэнесі, якога паважаюць усе адпартыйцы. Падаецца, такі варыянт вельмі расчаруе Маскву, дзе ставяць на Трампа, які бачыць галоўным стратэгічным апанентам Злучаных Штатаў не Расію, а Кітай. Боб Коркер у пытаннях знешняй палітыкі мае амплуа «ястраба». Хаця звычайна яго цікавяць падзеі на Блізкім Усходзе.

Палітычныя букмекеры прымаюць стаўкі і на былога губернатара Нью-Джэрсі Крыса Крысці. Той таксама спрабаваў ісці на праймерыз, аднак хутка правaліўся і зняў сваю кандыдатуру. Тады ж ён адразу зрабіў сенсацыйную заяву ў падтрымку Трампа, якога на той час мала хто ўспрымаў усур'ёз. Трамп, у сваю чаргу, пазней некалькі разоў пазітыўна ўзгадваў Крысці ў сваіх прамовах. У выпадку, калі VC стане Крысці, амерыканская знешняя палітыка будзе больш мяккай. Крысці выступае за пошук дыялогу ў знешніх канфліктах.

**У фінале Трампа чакае дуэль з Хілары Клінтан, якая падае сябе як лабіст інтарэсаў жанчын. Таму не выключана, што ён будзе шукаць кандыдата ў віцэ-прэзідэнты сярод палітыкаў у спадніцах**

Не выключана, што Трамп будзе шукаць кандыдата ў віцэ-прэзідэнты сярод палітыкаў у спадніцах. У фінале яго чакае дуэль з Хілары Клінтан, якая, сярод іншага, ахвотна пазіцыянуе сябе як лабіст інтарэсаў жанчын. Намінацыя Трампам у віцэ-прэзідэнты кабеты дазваляе паслабіць феміністкае крэда Клінтан. У прэсе называюцца некалькі прозвішчаў рэспубліканак, якім Трамп можа прапанаваць стаць VC. Найбольш перспектыўная (і найбольш незвычайная) — сенатар са штату Аёва Джоні Эрнст. Да таго, як заняцца палітыкай, яна была прафесійным жаўнерам, і нават брала ўдзел у вайсковых аперацыях у Іраку і Кувейце. Эрнст мае імідж паслядоўнага кансерватара, крытыкуючы, напрыклад, гомасексуальныя шлюбы. З яе прозвішчам звязаны буйны медыяскандал, калі яна публічна прызналася, што, будучы ў войску, стала ахвярай сексуальнага гвалту. Кандыдатура Эрнст таксама не ўзрадуе Крэмль. Эрнст лічыць, што так званы «гуманітарныя інтэрвенцыі» — важны інструмент у арсенале амерыканскай знешняй палітыкі.

Нарэшце, Трамп можа здзейсніць кастынг на пасаду кандыдата свайго віцэ-прэзідэнта, сыходзячы з аналізу перспектыў пасля прыходу ў Белы дом. Справа ў тым, што ён абсалютна чужы для дэпутатаў-рэспубліканцаў, без галасоў якіх яму не прасунуць ніводны законапраект. Таму ёсць версія, што ён вось-вось звернецца з прапановай да Н'юта Гінгрыча, былога спікера Палаты прадстаўнікоў. Дарэчы, у знешняй палітыцы Гінгрыч — прыхільнік «жорсткіх рашэнняў» у адносінах з так званымі «краінам-ізгоямі».

Хто пераможа ў гэтым конкурсе, пакуль цяжка сказаць. Тым больш, як піша «The Washington Post», той, каму Трамп прапануе пасаду віцэ-прэзідэнта, яшчэ сто разоў падумае, ці прымаць прапанову. Бо Дональд Трамп — вельмі ж супярэчлівая фігура.

Што да місіс Клінтан, то тут прынцыпы выбару кандыдата ў віцэ-прэзідэнты больш простыя. Паколькі асноўны канкурэнт па праймерыз — Берні Сандэрс — эксплуатуе тэму сацыялкі, дык трэба ўключаць у каманду асобу з рэнамэ абаронцы правоў працоўных. І такі чалавек ёсць. Гэта Том Перэз, які адказваў за міністэрства працы ў часы Біла Клінтана. Ён і зараз вельмі актыўны ў гэтай сферы. Плюс таксама тое, што Том мае мексіканскія карані і можа быць сваім у вачах амерыканцаў лацінаамерыканскага паходжання. Мінус — Перэз абсалютна абыякавы да пытанняў міжнароднай палітыкі.

На крытэры пошуку кандыдата ў віцэ-прэзідэнты дэмакратаў могуць паўплываць апошнія вынікі сацыялагічных апытанняў. Паводле іх, Трамп упершыню за час выбарчай гонкі пачаў абыходзіць Клінтан. Калі трэнд замацуецца, значыць, не пазбегнуць жорсткіх электаральных бітваў у так званых «swing states» — штатах, дзе могуць прагаласаваць як за партыю «аслоў», так і за партыю «сланоў». Да такіх штатаў належаць Вірджынія, якую ў сенаце прадстаўляе Цім Кейн, што карыстаецца павагай у тубыльцаў. Тым больш, што Цім, як і Хілары, — аматар жорсткай знешнепалітычнай лініі. Сенатар галасаваў за адпраўку войскаў і ў Афганістан, і ў Ірак.

Нарэшце, нельга выключыць і такога сенсацыйнага сцэнару, як з'яўленне на пасадзе кандыдата ў віцэ-прэзідэнты Клінтан сацыяліста Берні Сандэрса. Пра гэта, прынамсі, піша сайт CNN са спасылкай на інсайдэраў у апараце дэмпартыі. Што з гэтага атрымаецца, прадказаць цяжка — у тым ліку з прычыны нестыкоўкі поглядаў Сандэрса і Клінтан на знешнепалітычны курс ЗША. З іншага боку, на цяперашніх выбарах прэзідэнта ЗША ўвогуле нічога прадказаць нельга.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Надзея Саўчанка



Нягледзячы на тое, што ўкраінскі палітык, і экс-вязень сумлення вярнулася на радзіму амаль два тыдні таму, яна дасюль застаецца ў фокусе ўвагі ўсяго ўкраінскага грамадства, у тым ліку дзякуючы рэзанананснай заяве пра гатоўнасць стаць прэзідэнтам.

Пакуль ацэнкі першых крокаў Надзеі на палітычнай ніве розныя. Некаторыя кажуць, што яна імкліва ідзе па слядах былых куміраў — герояў Майдана, у якіх грамадства расчаравалася праз адсутнасць пазітыўных рэформ. Іншыя, наадварот, працягваюць бачыць у Надзеі перспектыўнага лідара, які намагаецца не запэцкацца папулісцкімі абяцанкамі. Яшчэ адна пазіцыя — Саўчанка можа стаць сімвалам праварадыкальнага перавароту.

Пакуль палітолагі спрачаюцца, Саўчанка не на жарт зацікавілася бульварная прэса. На яе старонках прапануюцца самыя неверагодныя версіі. Так, некаторыя пішуць, што Саўчанка цяжарная. Менавіта гэта, маўляў, і было падставай для яе вызвалення (трымаць цяжарную кабету ў турме было б апошнім ударам па рэпутацыі Крамля). Другія кажуць, што Саўчанка ў Расіі падмянілі, паколькі знешне яна не падобная на чалавека, які некалькі разоў трымаў сухую галадоўку. Не прайшлі міма і асабістага жыцця Надзеі. Ужо вядома, што адзін з герояў Майдана, экс-сотнік Уладзімір Парасюк, запрасіў Надзею на спатканне. Няма сумневаў, што такі інтарэс гарантуе доўгае знаходжанне Саўчанка ў медыяпрасторы.

### Роберт Мугабэ



Кіраўнік Зімбабвэ, які, дарэчы, таксама выконвае функцыі старшыні Афрыканскага саюза, заклікаў да стварэння ў Афрыцы мясцовага аналага гаагскага Міжнароднага трыбунала па правах чалавека. Праўда, у адрозненні ад суда ў нідэрландскай Гаазе, яго афрыканскі варыянт будзе займацца выключна справамі белых каланізатараў Афрыкі. На думку ініцыятара праекту, каланіялізм — тое самае, што і вайсковыя злачынствы ды іншыя варыянты злачынстваў супраць прынцыпаў гуманізму. Зімбабвійскі гарант ужо пералічыў першых асоб свету, якія павінны апынуцца на лаве падсудных. Гэта былы брытанскі прэм'ер Тоні Блэр і экс-прэзідэнт ЗША Джордж Буш-малодшы.

СМІ, каментуючы выпад Мугабэ, звязваюць яго з ростам колькасці спраў супраць афрыканскіх палітыкаў, якія разглядае Гаагскі трыбунал. Зараз расследуюцца справы па дзесяці выпадках, дзевяць з якіх мелі месца ў Афрыцы.

Папярэднія суды выклікалі рэзкую крытыку афрыканскіх лідараў. Калі верыць ім, гаагскія суддзі пераследуюць выключна афрыканцаў, паколькі пасадзіць еўрапейскіх і амерыканскіх палітыкаў за відавочныя антыгуманныя злачынствы, кшталту вядзення войнаў, практычна не магчыма.

### Рэджэп Таіп Эрдаган



Прэзідэнт Турцыі 30 мая адзначыў абсалютна «някруглую» і ў чымсьці дзіўную дату — 562-ю гадавіну захопу асманамі Канстанцінопаля ў далёкім 1453 годзе. Мерапрыемствы, частка якога быў вайсковы парад, відавочна мусіла засведчыць рашучасць Анкары ў цяперашніх знешніх канфліктах. Аднак вынікам святкавання захопу Канстанцінопаля было прыцягненне ўвагі да абсалютна не патрыятычнай тэмы.

Падчас выступу Эрдаган заявіў, што на ўзроўні кіраўніцтва прынята стратэгічнае рашэнне «ўзняць колькасць нашчадкаў туркаў». Адначасова гарант заявіў, што «планаванне сям'і (чытай — кантрацэпцыя) не апавядае ісламскай традыцыі». Заява адразу выклікала пратэсты мясцовых жаночых арганізацый, якія сцвярджаюць, што захапленне прэзідэнта часамі сярэднявечча заходзіць занадта далёка.

У грамадстве хапае спекуляцый наконт таго, якое канкрэтна за рашэнне наконт росту нараджальнасці прынята ўладай. У сувязі з гэтым згадваюць, што не так даўно Эрдаган казаў, што ў стандартнай турэцкай сям'і павінна быць чатыры дзіцяці.

Варта адзначыць, што дэмаграфія ў Турцыі і так вельмі добрая. За першых 16 гадоў XXI стагоддзя туркаў стала больш на 10%. Усяго ў Турцыі жыве 78 мільёнаў чалавек.

3 чэрвеня 2016 | № 22 (487) Новы Час

# Генерал Броні

Валер БЫЧКОЎСКІ

**Падзеі, звязаныя з постаццю генерала Люцыяна Жалігоўскага, у Беларусі застаюцца малавядомымі. Прынята лічыць, што гэты таленавіты вайскавод быў дзеячам Польшчы, а для Беларусі ён чужынец, ці таго горш — здраднік. Кім жа ён быў — генерал Броні Люцыян Жалігоўскі?**



Генерал Люцыян Жалігоўскі

## Шляхціц з вуліцы

Люцыян Мячыслаў Рафал Жалігоўскі нарадзіўся на Ашмяншчыне ў 1865 годзе ў сям'і дробнага літвінскага шляхціца, удзельніка паўстання 1863 года Густава Жалігоўскага і Уладзіславы Трачэўскай. Неўзабаве за ўдзел у паўстанні бацька Люцыяна быў высланы ў Сібір, адкуль ужо не вярнуўся. У сям'і была канфіскаваная ўся маёмасць, зямля, жытло. Люцыян у выніку быў выхаваны цёткай Катарынай у Жупранах Ашмянскага павету — у вялікай беднасці, сярод вясковых хлапчукоў.

Па атрыманні атэстату сталасці ён вырашыў спраўдзіць запаветную мару — стаць афіцэрам. Не маючы грошай на дарогу і абутак, ён басанож паехаў у Вільню. Нягледзячы на сваю беднату, валодаючы толькі «тутэйшаю» гаворкаю, Люцыян асабістым імпэтам і мэтанакіраванасцю запэўніў настаўнікаў вайсковай вучэльні залічыць яго ў шэрагі юнкераў.

Па выніку навучання прапаршчык Жалігоўскі выбітна здаў іспыты, атрымаў выдатныя рэкамендацыі ад камандзіра, быў вылучаны на афіцэра, узнагароджаны прызавой зброяй, срэбным гадзіннікам і ланцугом з правам насіць яго паверх мундзіру. Гэты прыз марылі атрымаць усе юнкеры.

У 1888 годзе Люцыян Жалігоўскі атрымаў сваё першае афіцэрскае прызначэнне. Варта адзначыць, што яно затрымалася на паўгода: у тагачасным расійскім асяроддзі да каталіка-літвіна ставіліся з пагардаю і падазронасцю, лічачы яго палякам. Урэшце, атрымаўшы званне лейтэнанта, Жалігоўскі накіраваўся ў 136-ы пяхотны полк у Навачаркаск ва Украіну.

## Вальнадумца і цвярэзнік

У першы ж дзень далучэння лейтэнанта да службы адбыўся інцыдэнт, які паўплываў на ўсё яго жыццё. Па прыбыцці ў полк у суботу раніцай, Жалігоўскі мусіў неадкладна зарэгістравацца ў штаб-кватэры і зрабіць даклад камандзіру. Камандзір палка ў той час абедаў у афіцэрскай сталоўцы. Пабачыўшы новага падначаленага, падпіты палкоўнік падняў тост за здароўе цара і прапанаваў Жалігоўскаму выпіць за тое ж. Піць малады літвін адмовіўся катэгарычна.

Адмова адразу ж ператварылася ў скандал, палкоўнік абвінаваціў лейтэнанта ў падбухторванні да бунту, неадкладна адправіў справаздачу камандзіру дывізіі і прапанаваў аддаць лейтэнанта пад трыбунал за абразу манарха. Быў нават прызначаны камітэт па разгляду справы. Але афіцэры палка, якім, бачна, выхадкі палкоўніка таксама надакучылі, сталі на бок свайго новага калегі. Палкоўнік быў адхілены ад пасады, справу спынілі, але за свавольным літвінам засталася рэпутацыя нестандартнага і небяспечнага афіцэра.

Праз гады Жалігоўскі праналізаваў той выпадак: «Я атрымаў ад гэтага інцыдэнту выйгрыш у прадукцыйнасці ўздзеяння на далейшае жыццё: 1) Ён назаўсёды адштурхнуў мяне ад гарэлкі і п'яных людзей. Ён зрабіў мяне адзіночкай. Я павярнуўся да літаратуры і французскай мовы. 2) Я сустрэў Валанскага, які меў уплыў на маё жыццё. 3) Я сустрэў украінскую нацыю, Шаўчэнку, Гогаля, песні, стэпы, шырокі Дняпро (...) Гэты выпадак... адвярнуў мяне ад элітных вайскоўцаў і наблізіў да шэрага натоўпу, дзе я знайшоў вялікія значэнні духу і культуры ўнутры. Магчыма, самае галоўнае, ён падняў маю ўпэўненасць ва ўласнай моцы і крытыку да любой хлуснi жыцця».

Беднасць Жалігоўскага ўскладняла яму адносіны з калегамі. Ён не піў, не паліў, браў удзел толькі ў бясплатных гульнях, паездках, спаборніцтвах, але як справа даходзіла да гусаравання, цвёрда адмаўляўся. Становішча вымагала быць паслядоўным да канца і не ісці на кампрамісы. Адмову ад алкаголю Жалігоўскі прадставіў як жыццёвы прынцып. Ён заўжды годна паказваў, што мае ўсё, што яму патрэбна.

Пачатак кар'еры Жалігоўскага прыйшоўся на часы царавання Аляксандра III. Манарх, у адрозненне ад свайго бацькі, рэфарматара Аляксандра II, бачыў развіццё імперыі ў адваротных рэформах, скіраваных на ўмацаванне абсалютызму, цэнзуры і росквіце панславізму. Афіцэрам забаранялася чытаць «няправільныя» кнігі, а выпіўка ды гулянкі квітнелі, дэмаралізуючы войска. Расійская армія Жалігоўскаму бачылася дэградуючай пусткаю.

У сваіх мемуарах ён пісаў: «Армія тады была асноўным падмуркам царскага рэжыму. Вайсковец быў атачаны наглядам і ізаляваны ад грамадства. Афіцэр мог чытаць толькі тое, што дазволена, пайсці туды, дзе ён можа знаходзіцца пад наглядам, казаць толькі тое, што апрабавала камандаванне. [...] Прадчувалася вялікая рэвалюцыя. Уся літаратура, мастацтва, музыка і паэзія былі накіраваны

**Падпіты палкоўнік падняў тост за здароўе цара і прапанаваў Жалігоўскаму выпіць за тое ж. Піць малады літвін адмовіўся катэгарычна**

рэвалюцыйна. Забойства цара, катаванні рэвалюцыянераў, рэфлексы інтэлекту — усё гэта робіца ў атмасферы рызыкі чаканняў. Палітыка, паліцыя — усе органы ўлады былі мабілізаваны для адсочвання, нагляду за рэвалюцыянерамі. Гэта асабліва адлюстроўвалася ў невялікіх гарнізонах. Там жыццё цалкам затанула. Ні тэатру, ці бібліятэкі або газеты, грамадства — нічога. Толькі службоўцы, практыкаванні, а затым казіно, карты, гарэлка, п'янства. Добры афіцэр не павінен думаць — ён чытае правілы. З іншага боку, не бракавала гарэлкі, распаўсюджваліся скандалы. Ноччу часта была страляніна, самагубствы. Сем'і амаль зніклі, а жанчыны былі найнешчаслівейшымі істотамі. Нормаю заставаліся даўгавечныя оргіі, п'янства. [...] Гэта быў сапраўды сумны час для ўсёй нацыі. Беднасць, карупцыя, голад, непісьменнасць».

Рэалізоўваў Жалігоўскі ў іншым — даследаваў палі баёў Крымскай вайны, наведваў храмы, ладзіў экспедыцыі на Дняпро, назіраў звычкі мясцовага насельніцтва. Ён карыстаўся ўсімі магчымасцямі пашырыць свае веды і атрымаць новыя ўражанні. Так ён сустрэўся з Луіджы Валанскім, які сваёй бібліятэкай і цікавасцю да бягучых падзеяў аказаў вялікі ўплыў на яго асобу.

## Ад капітана да камдзіва

Неўзабаве Жалігоўскаму выпала прадэманстраваць навыкі ў вайсковым рамястве. У 1904-м капітан Жалігоўскі ў Маньчжурыі ўзяў удзел у руска-японскай вайне. У 1905 годзе за свае перакананні ён прадстаў перад судом, які скончыўся апраўдальным выракам.

У 1907-м Жалігоўскі пабраўся шлюбам з Тацццянай Лапата, якая падаравала яму блізнятак Тадэвуша і Яніну.

Падчас Першай сусветнай вайны Жалігоўскі быў ужо палкоўнікам. Яго прызначылі камандзірам пяхотнага палка. У верасні 1915 годзе расійскае камандаванне пачало фармаваць Польскую брыгаду стральцоў. Жалігоўскі, бацькі якога калісь змагаліся за аднаўленне незалежнасці Рэчы Паспалітай, па ўласнай просьбе перайшоў у брыгаду на пасаду камандзіра батальёну. У чэрвені 1916-га брыгада дасягнула баявой гатоўнасці і 27 ліпеня прайшла баявы хрост, фарсуючы раку Шчару.

Пасля лютаўскай рэвалюцыі, у сувязі з ростам рэвалюцыйных настрояў у расійскім войску, брыгада была рэарганізаваная ў I Польскі корпус, а Жалігоўскі накіраваны ў расійскае войска. Аднак хутка ён вярнуўся на пасаду камандзіра I пяхотнай дывізіі.

Кастрычніцкі пераварот у Пецярбурзе зноў спраکавываў Жалігоўскага на службовы канфлікт. Генерал Юзэф Доўбар-Мусніцкі выступаў за падтрымку Часовага ўраду, а Жалігоўскі лічыў, што польскія вайсковыя адзінкі павінны заставацца нейтральнымі. У выніку вясной 1918 года Доўбар-Мусніцкі звольніў Жалігоўскага з усіх пасадаў.

## Выратавальнік Еўропы

Выехаўшы ў Кіеў, Жалігоўскі ўвайшоў у склад Найвышэйшага польскага вайсковага камітэту, што з французскай вайсковай місіяй ствараў армію генерала Юзэфа Галера. Ужо 3 ліпеня 1918 года Галер прызначыў Жалігоўскага камандзірам Войска Польскага на Усходзе і ўзвёў да чыну генерал-падпаручніка.

На чале створанай на Кубані Дывізіі польскіх стральцоў Жалігоўскі ў 1919 годзе вёў баі з бальшавікамі і ўкраінскімі вайсковымі гуфамі і праз Бесарабію




Сучасны касцёл Маці Божай Ружанцовай у в. Солы, пабудаваны на месцы старога драўлянага ў 1934 г.

# Люцыян Жалігоўскі

вывеў дывізію ў Польшчу. Там генерал зблізіўся з Юзафам Пілсудскім і разам з ім стаў адным з аўтараў канцэпцыі новай канфедэратыўнай Рэчы Паспалітай з удзелам Польшчы, Украіны, Беларусі і Жамойціі.

Падчас бальшавіцка-польскай вайны Жалігоўскі спачатку камандаваў Беларуска-Літоўскім Фронтам, потым аперацыйнай групай у раёне Мінска, а таксама 10-й пяхотнай дывізіяй. Па дамоўленасці з эміграцыйным урадам БНР былі створаныя беларускія фармаванні пад камандаваннем Беларускай Вайсковай Камісіі, а таксама беларускія гуфы ў складзе Войска Польскага — дзве літоўска-беларускія дывізіі. Жалігоўскі ачольваў першую з іх.

У 1920 годзе ў знакамітай Варшаўскай бітве дывізія Жалігоўскага і беларускія эскадроны Станіслава Булак-Балаховіча мужна абаранялі польскую сталіцу і адыгралі ключавую ролю ў перамозе над чырвонымі. Менавіта яны — беларусы Жалігоўскага, — авалодалі месцам Радзімін, разамкнуўшы фронт бальшавікоў. Як казаў пасля брытанскі пасол: «Варшаўская бітва 1920 года была васямнаццатым самым важным боем у свеце. Перамога бальшавікоў была б паваротным момантам у гісторыі Еўропы. Цэнтральная Еўропа стала б ахвярай камуністычнай прапаганды і савецкага ўварвання. Гэта была вайна паміж дзвюма сістэмамі і культурамі, і яе зыход вырашыў лёс Еўропы».



Варшаўская бітва 1920 г.



Расійскі імператар Аляксандр III



Юзаф Пілсудскі

## Як стварыць дзяржаву?

З-за перавагі ў польскім урадзе ўнітарнай канцэпцыі Рамана Дмоўскага, з-за складанай сітуацыі на савецкім фронце, з-за ўмоваў пагаднення з краінамі Антанты ідэя федэратыўнай Рэчы Паспалітай праваліцца. Вільню са значнай часткай краю занялі летувіскія войскі.

Насельніцтва Віленшчыны было пераважна беларускім і каталіцкім. Многія не жадалі разрыву з палякамі і не бачылі сябе ў жамойцкай дзяржаве. Пазней генерал занатаваў гэтае стаўленне тутэйшых ліцвінаў да ўлады нованазваных ліцвінаў-летувісаў: «Мы ўсе апелявалі да ўнійных катэгорыяў. Пад словам «ліцвін» мы разумелі паняцце Літвы гістарычнай, Літву вялікіх мэтаў, вялікіх людзей, вялікай ідэяў. Мы шанавалі нашы традыцыі, нават попел Зніча пад Катэдрай. Нічога з прышласці не пакінула следу, новаяўлены «ліцвін» аказаўся ворагам... і чакаў прыезду на трон літоўскі — Гагенцолерна, пад імем — о, іронія! — Міндоўга ІІ. Найбольш перажываў за гэта Маршалак. Чакаў, верыў у людскае разуменне і розум. Толькі люднасць мясцовая адкідала ўсё, што тады назвала сябе «літоўскім». Ніхто не хацеў чуць пра навуку жмудскае мовы, ніхто не прызнаваў «літоўскага» чыноўніка, і любая кабета не хацела ісці ў касцёл, дзе служыў «літоўскі» ксёндз. Чаму мы, адвечныя насельнікі Літвы, мусілі ўнікаць той дарагой для нас назвы, а іншыя людзі, што не маюць з Літвою нічога супольнага, — называць сябе ліцвінамі?..»

Звязаны дамовамі з Антантаю Пілсудскі, сам будучы віленскім ліцвінам, не мог выступіць супраць Летувы. Жалігоўскі ж, пасля неафіцыйнай сустрэчы з Пілсудскім у Баранавічах і пры яго негалоснай згодзе абвясціў пра непадпарадкаванне Польшчы і вывеў сваю дывізію з-пад польскай улады.

А 6 гадзіне раніцы 8 кастрычніка 1920 года «мяцежная беларуская дывізія», большасць жаўнераў якой была з Віленшчыны, рушыла на Вільню, да якой было 50 км. Перад выступам генерал звярнуўся да сваіх байцоў: «...трымаць узорны парадак і не дапускаць непрыстойных учынкаў з боку жаўнераў, якія ўступяць у Вільню, бо менавіта выпадкі нашых неадэкватных паводзінаў нясуць галоўную пагрозу нашай справе і найбольшую шкоду нашаму гонару!».

Поспех залежаў цалкам ад генерала. У выпадку паразы ці ўмешвання Антанты, жалігоўцы не атрымалі б ад палякаў ніякай дапамогі. Але Жалігоўскі не пабаяўся ўзяць на свае плечы адказнасць за ўсе дзеянні гэтага паходу, які дэ-юрэ быў супраць волі польскага камандавання.

Нязначныя перастрэлкі з летувіскімі войскамі адбыліся ля Рудніцкага лесу і чыгуначнай станцыі Стасілы. Істотны супраціў сустрэў жалігоўцаў на рацэ Мерачанцы. Дзвюхгадзінны бой скончыўся перамогаю жалігоўцаў. Палонных генерал загадаў раззброіць і адпусціць, звярнуўшыся да іх: «Мы не жадаем ваяваць з вамі, мы толькі вяртаемся дахаты пасля вайны».

Ужо на наступны дзень, 9 кастрычніка, дывізія скончыла сваю «мяцежную» справу. Вільня была захоплена генералам, да радасці яе месціч аў. Яны сардэчна віталі Жалігоўскага. Прамаўляючы перад віленцамі, генерал, з вільготнымі ад радасці вачыма, нібы апраўдваўся: «Вільню ўзяў не той Жалігоўскі, які камандаваў войскамі пры Радзіміне, а той, які хлопчыкам прыйшоў басанож з Жупранаў, каб трымаць школьныя іспыты і правёў ноч на лаўцы ў садзе бернардзінаў».

Летувіскія гуфы былі вымушаны адступіць з Вільні, Ашмянаў, Свянцянаў, а генерал абвясціў стварэнне новай дзяржавы — Рэспублікі Сярэдняя Літва.

Пасля генерал пісаў: «Чым больш маіх жаўнераў было звязана з Вільняю і Віленскаю зямлёю, тым менш ваганняў я адчуваў, бо меў толькі адно — шчырую радасць, што пасля нягодаў вайны і выгнання, я нарэшце вярнуся ў Вільню і буду вітаць сваіх блізкіх. Гэта самае дарагое...»

Трагізм падзеяў быў у тым, што і па іншы бок таксама былі беларусы. У 1919 годзе расколатым урадам БНР былі створаны вайсковыя гуфы і ў Летуве. Беларусь тады страціла незалежнасць, цалкам яе не атрымаўшы, а самі беларусы былі вымушаны счапіцца між сабою са зброяю ў руках у барацьбе за Віленшчыну, мужна выконваючы дадзеную прысягу.

## Няспраўджаная мара

Чаму ж Жалігоўскі, будучы ліцвінам, выбраў службу маладой Польшчы, а не БНР?.. Беларускі нацыянальны рух тады грунтаваўся на левых рэвалюцыйных поглядах, і ў ім, за рэдкім выключэннем, не было месца ліцвінам-арыстакратам, да якіх належаў Жалігоўскі. Генерал называў сябе не беларусам, а ліцвінам, але цалкам прыязна ставіўся да беларускага руху. Дасведчаны і прадбачлівы вайскоўца, Жалігоўскі разумеў, што слабая БНР з выгнаным за мяжу і расколатым урадам, не надта шматлікім і раскіданым па розных краінах войскам, фізічна не мае рэсурсаў на самастойнае адраджэнне і развіццё. Да таго ж, ён з дзяцінства выхоўваўся на ідэалах адраджэння Рэчы Паспалітай і не хацеў бачыць яе ў новай разарванасці.

Ён пісаў: «Вільню заняў не польскі генерал Жалігоўскі, а ліцвін Жалігоўскі. Мараю гэтага апошняга было жыць сярод суайчыннікаў на ліцвінскай зямлі. Я не вылучаў сярод іх ні палякаў, ні русінаў, ні жмудзінаў. Будучы ліцвінам, я ніколі не пераставаў быць палякам. Два гэтыя паняцці звязаныя між сабою. Яны ўзаемна дапаўняюць адно другога».

Вярхоўная ўлада ў Сярэдняй Літве належала Вярхоўнаму камандуючаму войскамі, а выканаўчая — Часоваму выканкаму. Дзяржава функцыянавала з усімі патрэбнымі атрыбутамі і ўстановамі. Дзяржаўнымі сімваламі былі ўстаноўлены герб у выглядзе чырвонага шчыта з выяваю белага арла праваруч і Пагоні леваруч і чырвоны сцяг з такою ж выяваю. Урад быў прадстаўлены як польскімі, так і беларускімі дэпутатамі. Прэса, справаводства і навучанне былі двухмоўнымі. Аднак, з-за незнаходжання кампрамісу з польскай паловаю ў вырашэнні палітычных пытанняў, беларускія дэпутаты ў знак пратэсту выходзяць з ураду ўжо ў 1921 годзе.

Каму яны гэтым зрабілі горш? Польскі ўплыў ва ўрадзе стаў вырашальным. Праз год на Сейме ў Вільні, карыстаючыся сваёй большасцю, польскія дэпутаты прагаласавалі за ўваход Сярэдняй Літвы ў склад Польшчы.

## Шанаваны генерал

Жалігоўскі стаў інспектарам войска ў Варшаве. У 1924 годзе прэзідэнт Вайцяхоўскі павысіў Жалігоўскага да годнасці генерала Броні. За ўсю гісторыю гэтую годнасць мелі толькі 16 афіцэраў. Генерал становіцца ваенным міністрам і дапамагае свайму старому сябру Юзафу Пілсудскаму ажыццявіць «майскі пераварот» у 1926 годзе. У 1927-м сыходзіць у адстаўку.

Напярэдадні нападу фашыстаў на Польшчу, 25 жніўня 1939 года Жалігоўскі даслаў зварот да маршала Рыдз-Сміглы з просьбаю вяртання на вайсковую службу: «Генерал Люцыян Жалігоўскі — маршалу Польшчы. Пане Маршалу! Хаця я ёсць старым чалавекам, але Бог захаваў мае сілы і здароўе, якія я буду шчаслівы ўжыць да барацьбы з адвечным ворагам Польшчы».

З-за сталага ўзросту зварот ветэрана адхілілі, але няўрымслівасць старога вайскавода не дазволіла яму сядзець дома. Жалігоўскі ў якасці цывільнага дарадцы дапамагаў камандуючаму Паўднёвым фронтам генералу Сасноўскаму. Па капітуляцыі Львова ён эвакуяваўся праз Румынію ў Францыю, а потым у Вялікабрытанію.

Па сканчэнні Другой сусветнай вайны Жалігоўскі рыхтаваўся вярнуцца ў Польшчу. Але ён памёр 9 ліпеня 1947 года ў Лондане на 87-м годзе жыцця. Смерць напаткала яго якраз у час падрыхтоўкі пераезду на радзіму.

Згодна яго волі, цела было перавезена ў Варшаву і пахавана на вайсковых могілках. Транспарт арганізаваў брыгадны генерал Станіслаў Татар, выкарыстаўшы гэтую магчымасць для перавозу да Польшчы захаваных у Брытаніі архіваў Народнага Фонду Абароны. Гэта была апошняя служба генерала Жалігоўскага.

За гады сваёй службы Люцыян Жалігоўскі атрымаў больш за 20 узнагарод і тытулаў, сярод якіх і Георгіеўскі Крыж Расійскай імперыі. Імем генерала Жалігоўскага названы вуліцы ў Варшаве і Лодзі. Таксама вуліца яго імя была ў даваеннай Лідзе, але ў 1940 годзе савецкія ўлады перайменавалі яе ў вуліцу Дзяржынскага.

# Беларуска-англійскі слоўнік. Прысвячаецца Змітру Саўку

**Напоўніцу ідзе падрыхтоўка да друку першага беларуска-англійскага ілюстраванага слоўніка.**

Кожнаму слову адпавядае малюнак. І дзякуючы такому спалучэнню слова запамінаецца лепш. «Наш дом / Our Home» — гэта слоўнік, які павінен вучыць праз забаву. Малыя без гульні за навуку і не возьмуцца. А старэйшыя дзеці і дарослыя з візуальным успрыняццем свету — спросцяць сабе задачу, калі англійскія словы будуць вучыць пры дапамозе выяваў.

Ідзе руплівая праца над макетам асноўных старонак. Зроблена 75 працэнтаў, вокладка — яшчэ ў распрацоўцы. За кантэнтнае напаўненне адказваюць магістры гуманітарных навук, лінгвісты-перакладчыкі Алена Ялавенка і Наталля Зенька. У выніку пабачым каляровае выданне са словамі і злучэннямі, найбольш патрэбнымі ва ўжытку, бо ўсе яны вакол нашага дому.

Сярод 44 тэмаў будуць «Часткі будынка», «У пад'ездзе», «Ля пад'езда», «Каля хаты», «У вітальні», «У спальні», «У ванным пакоі», «На кухні», «Рамонт», «Хатнія жывёлы» і інш. Яшчэ прынамсі 20 старонак зойме беларускі і англійскі гласар (апроч саміх словаў з нумарамі старонак размяшчэння там будзе і транскрыпцыя словаў).

Кіраўніца праекту і суаўтарка слоўніка Алена Ялавенка перакананая, што кніжка станецца папулярнай: «Для Беларусі гэта непаўторнае выданне. Нам важна, каб пра яго падрыхтоўку даведаліся як мага больш людзей, бо гэта зробіць кнігу таннейшай. Мы прыцягнулі сродкі для друку 500 асобнікаў. Пры такім накладзе кошт аднаго асобніка перавысіць $5. Калі б мы назбіралі грошы на выпуск 1000 асобнікаў, кожны экземпляр патаннее на чвэрць».

Гэта азначае, што беларуская родная мова і англійская міжнародная стануць даступныя і менш забяспечаным карыстальнікам. Таму суаўтаркі Алена і Наталля па-за працаю над макетам займаюцца і краўдфандынгам праекту «Наш дом / Our Home». Грошы на 500 асобнікаў збіралі праз платформу talaka.by, дзе дапамагалі выключна фізічныя асобы. Цяпер праект збірае дадатковыя сродкі на слоўнік праз платформу MaeSens і змагаецца за перамогу ў фінале конкурсу Social Weekend 7.

Давер да выдання ствараюць імёны, якія за ім стаяць і ў яго вераць. Натхняльнікам на стварэнне «Нашага дому» быў мовазнавец Зміцер Саўка. «Яшчэ ў 2002 годзе Наталля абмяркоўвала са спадаром Змітром, што падобнага двухмоўнага слоўніка з замежнай мовай у Беларусі няма, — узгадвае Алена Ялавенка. — Спадар Зміцер вітаў нашую працу па стварэнні слоўніка і быў згодны пры неабходнасці даваць свае моўныя кансультацыі. Калі напачатку 2016 года я паведаміла яму, што мы талакой сабралі грошы на 500 асобнікаў, ён сказаў: «Значыць, вы на правільным шляху».

Вядомы і любімы ў беларускамоўным асяродку мовазнавец адышоў з жыцця і не стаўся навуковым кансультантам выдання, але менавіта яму будзе прысвечаная гэтая кніга, якая выйдзе сёлета ў жніўні.

**Паводле belsat.eu**



КВИТАНЦИЯ

ИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)

отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
| --- | --- | --- | --- | --- |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня

Кассир Всего

## Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але падпісацца на «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо патэлефанаваць у рэдакцыю і паведаміць адрас дастаўкі (+375 29 9625143; +375 29 7518143; Арцём)

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл. код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Падпісацца таксама можна ў нашым офісе, а таксама ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
ці **атрымаць бясплатна** (8029) 666 45 29, Анатоль
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

З **1 студзеня 2016** года кошт аднаго месяца падпіскі — **32 000** руб., **квартала — 90 000 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 528

Падпісана да друку 03.06.2016. 8.00.
Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.